
Паўлінка → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Супрасльская акадэмія → 4

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 10 (3017) Год LIX | Беласток, 09 сакавіка 2014 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Датацыі без кансервацыі

Аб новых прынцыпах прызначэння датацый для нацыянальных і этнічных меншасцей у будучым годзе, новым падзеле выбарчых акруг у Падляшскім ваяводстве перад восенькімі самаўрадавымі выбарамі, а таксама аб пераследзе злачынстваў на расісцкай і ксенафобнай глебе паліцыяй і пракуратурай ішла размова ў час чарговай штогадовай сустрэчы прадстаўнікоў арганізацый нацыянальных меншасцей з падляшскім ваяводам і прадстаўніком Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі (МАіЛ). Найбольш шматліка рэпрэзентавана была беларуская меншасць.



Так склалася, што перад пачаткам сустрэчы падляшскі ваявода Мацей Жыўна размаўляў з новым пaслом Беларусі ў Польшчы Аляксандрам Авяр'янавым, прафесійным дыпламатам, які да назначэння працаваў дырэктарам дэпартамента знешнеэканамічнай дзейнасці МЗС Беларусі. Наведаў ён Беласток з трохдзённым візітам. Пасол, між іншым, сустрэўся з гайнаўскімі самаўрадаўцамі і прыняў удзел у гала-канцэрце Фестывалю беларускай песні. Пасля размовы ў Падляшскай ваяводскай управе ваявода Мацей Жыўна расказаў «Ніве» аб яе ходзе:

— Была гэта перш за ўсё галантна-азнаямляльная сустрэча. Аднак я, карыстаючыся нагодай, закрануў тэму афрыканскай чумы свіней і пытання адстрэлаў, якія праводзяцца ад граніцы ў глыб Беларусі, а не ў другі бок, каб тая жывёла да нас не ішла. Размаўлялі мы таксама аб гранічнай інфраструктуры. Паколькі пасол запытаў пра гэта, закранулі мы тэму праблем беларускай меншасці, і я сказаў, што разглядаем іх так, як цяпер, на штогадовых сустрэчах. Папрасіў я, каб пасол узяў патранат над кантактамі паміж мной і гродзенскім губернатарам, бо ідзе пра гранічныя справы, ахову асяроддзя ці бяспечнасць і такое супрацоўніцтва неабходнае. Пасол прыгадаў аб неабходнасці павялічыць лік беларускіх консулаў у сувязі з дзейнасцю Культурнага цэнтра Беларусі пры беларускім пасольстве ў Варшаве. Сказаў я, што калі такая прапанова будзе заяўлена беларускай меншасцю, то перадам яе на разгляд у польскае МЗС. Запытаў я пры нагодзе, чаму беларускі бок здаўна не хоча згадзіцца на павелічэнне ліку консулаў у польскіх консульскіх установах у Беларусі. Усцешыла мяне інфармацыя, што ў гэтай справе ўзноўлены консульскія перагаворы паміж польскім і беларускім МЗС. Вядома, запытаў я пра ўвядзенне Малога памежнага руху. Пачуў я пра тэхнічныя праблемы і што ў гэтай справе можна сесці за стол для перагавораў. Я адказаў, што ў гэтай справе ўсе пытанні на польскім баку даўно вырашаны, у тым ліку тэхнічныя, уключна са стварэннем палос на пагранпераходах для абслугоўвання гэтага руху.

У часе амаль трохгадзіннай сустрэчы Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі, якое курыруе нацыянальныя, этнічныя і канфесійныя меншасці ў Польшчы, прадстаўляў Станіслаў Гускоўскі, з чэрвеня мінулага года віцэ-міністр у гэтым ведамстве, былы прэзідэнт Вроцлава, былы вроцлаўскі радны, пасол Сейма і сенатар. Амаль у пачатку свайго выступлення спыніўся ён на велічыні датацый, прызначаных для меншасных арганізацый на гэты год:

— Квоты трохі ўдалося павялічыць, нягледзячы на абмежаванні ва ўсіх бюджэтных сферах. У 2014 годзе, дзякуючы датацыі міністра адміністрацыі і лічбавізацыі, маюць быць зрэалізаваны 422 задачы (паступіла 651 заява на суму 40 млн. зл.), якія служаць захаванню культурнай тоеснасці нацыянальных і этнічных меншасцей і ахове рэгіянальнай мовы. Ведамства на гэтыя мэты мае прызначыць каля 15 млн. зл.

Віцэ-міністр паведаміў, што ў правілы прызначэння датацыі на будучы год будуць уведзены змены, якія вынікаюць — як сам сказаў — з заяўленых міністэрству прапаноў. І так, між іншым:

— будзе магчымае заключанне шматгадовых дамоў з выдаўцамі тыднёвікаў і двухтыднёвікаў, а ў чарговых гадах, калі такое рашэнне апраўдаецца, можа яно быць пашыранае на іншыя задачы;

— удакладнена, што арганізацыі, якія хадайнічаюць за датацыі, павінны мець сама менш ад пяці гадоў статус юрыдычнай асобы, пацверджаны занясеннем у Краёвы судовы рэестр у якасці згуртавання або фонду;

— рэалізуючы ўказанні «Стратэгіі развіцця асветы беларускай меншасці ў Польшчы», запісана, што ў выпадку датацый, прызначаных на выданне часопісаў, перавага будзе аддадзена задачам адукацыйнага характару;

— пашырана каталог задач, пры рэалізацыі якіх перавага будзе аддадзена арганізацыям нацыянальных і этнічных меншасцей;

— дададзена новыя крытэрыі для заяў на атрыманне датацыі на выданне часопісаў, што з'яўляецца вынікам рэалізацыі ўказанняў змешчаных у адной з прапаноў Камісіі нацыянальных і этнічных меншасцей Сейма РП.

Заявы на датацыі на інвестыцыі, планаваныя на 2015 год, можна падаваць да 28 лютага 2014 г., заявы на падтрымку тэлевізійных праграм і радыёперадач, а таксама на прадметныя датацыі можна падаваць да 16 жніўня, а заявы на астатнія мэтавыя датацыі — да 16 верасня. Змяніліся ўзоры заявы і справаздачы. З наступнага года праўдападобна заявы і справаздачы будуць падавацца анлайн.

Ян Сычэўскі — старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства, звярнуў увагу:

— Тое, што робім, вельмі часта робім, грунтуючыся на энтузіязме. Бракуе нам штатаў. Калі б не было фінансавай падтрымкі з боку міністэрства, многіх нашых мерапрыемстваў не было б. Датацыі з боку самаўрадаў ці спонсараў — вельмі сімвалічныя. Адмова ад адкрытага конкурсу на атрыманне міністэрскіх датацый — здаровае рашэнне, бо ў адкрытых конкурсах меншасці не маюць шанцаў. Непакоіць сцвярджэнне пана міністра, што сітуацыя меншасці, звязаная з прызначэннем датацый меншасным арганізацыям у гэтым годзе палепшылася. Я занепакоены, бо былі запэўніванні аб фінансаванні мерапрыемстваў на ўзроўні мінулага года, але так не сталася. Баюся, ці гэта не стане пастаянная практыкай, што ў выніку давядзе да заняпаду беларускай культуры.

І дадаў супярэчліва:

— У выніку раздраблення грошай на малыя мерапрыемствы малых арганізацый беларуская культура будзе занепадаць. Без міжкультурнага дыялогу будзем зачыняцца ў гета. Мы на такую мэту падавалі заявы, але яны былі адхілены.

З фактам, што на практыцы сёлетнія датацыі меншыя, чым запэўнівае МаіЛ, згадзіўся, між іншым, Андрэй Артэмюк з Саюза ўкраінцаў Падляшша.

Віцэ-міністр Гускоўскі звярнуўся да гэтага і іншых выказванняў:

— Мы не фінансуем аніводнай арганізацыі, толькі задачы, праекты, задумы. Мабыць, паасобныя арганізацыі атрымалі менш. Нашай роляй не з'яўляецца ўзмацненне арганізацый, толькі культурнай ці моўнай тоеснасці. Генеральна беларуская ці ўкраінская меншасці атрымалі больш грошай, а што гэта былі іншыя мерапрыемствы іншых арганізацый, гэта ўжо іншая справа.

У гэтым месцы выразна сцвердзіў:

— Мы не можам кансерваваць таго, што ёсць, бо грамадскае жыццё мяняецца. Даем шанц кожнай арганізацыі, якая выконвае статутныя патрабаванні. У публічным бюджэце — многа крыніц, якімі можна карыстацца.

Аб фінансавай сітуацыі меншасцей у будучым годзе сказаў у сваю чаргу:

— Не ведаю як будзе ў наступным годзе. Бюджэт звычайна ствараецца ад жніўня да лістапада, пасля трапляе ў Сейм. Міністр фінансаў астуджвае нашыя запалы і дастасоўвае яго да даходаў дзяржавы. Думаю, што трэба будзе змагацца за сваё. Буду выступаць за квоты большыя, чым у гэтым годзе. Але ці гэта ўдасца?

Ян Сычэўскі дадаў:

— Калі з году ў год змяншэнне квот будзе павелічэннем, не ўдасца ўтрымаць большых мерапрыемстваў

Анатоль Адзіевіч са Згуртавання «Русь», пасля кансультацый з сядзеўшым побач Яўгенам Чыквіным — галоўным рэдактарам штомесячніка **«Przegląd Prawosławny»**, намеснікам старшыні сеймавай камісіі нацыянальных і этнічных меншасцей, пераконваў, што раздзел у нашым рэгіёне рэлігійнай (праваслаўнай) тоеснасці ад нацыянальнай (беларускай, украінскай, рускай) гэта — як можна было зразумець — апраўданне таго, каб даваць меншыя грошы з МаіЛ шматтыражнаму і папулярнаму штомесячніку **«Przegląd Prawosławny»** на г.зв. нацыянальны ўкладыш, чым малатыражным выданням (ускосным чынам: «Часопісу» і «Ніве»). Сам рэдактар-дэпутат звярнуўся да МаіЛ з заклікам прынязць ролю каардынатара дзеянняў па прадухіленні з'яў дэнацыяналізацыі беларусаў Падляшша і скарачэння іх колькасці.

працяг ☞ 11

9 770546 196000



# Распад
## і разлажэнне

На нашых вачах адбываюцца такія гістарычныя падзеі, якія ўдаецца ўбачыць не кожнаму пакаленню. Тое, што зараз дзеецца на Украіне, па маштабнасці і значнасці можна параўнаць хіба з часам распаду Савецкага Саюза ў канцы васьмідзесятых гадоў ужо мінулага стагоддзя. Тое, чым гэта скончыцца — таксама можна прадказаць, невядома толькі колькі працягнецца гэтая вайна пуцінскай Расіі супраць Украіны і колькі яна прынясе ахвяр. А скончыцца ўсё ганебным паразай Расіі і яе далейшым распадам. Гісторыя не можа развівацца іначай. Альбо ўсё пяройдзе ў трэцюю сусветную вайну і адбудзецца поўнае знішчэнне цывілізацыі на планеце Зямля.

Так званы дэмакратычны свет сарамліва і старанна заплюшчваў вочы на ўсе праявы новага расійскага імперыялізму. А ён жа быў такім відавочным і прадказальным. Ад пачатку прыходу да ўлады ў Маскве Пуціна ўсё было зразумела. Пра небяспеку неафашызму пісалі публіцысты і аналітыкі, казалі многія палітыкі розных краін. Але спярша заходняя супольнасць праглынула другую чачэнскую вайну і знішчэнне на зямлі Ічкерыі пачатkaў цывілізацыйнага развіцця. Паралельна Захад працягваў аддаваць у васальную залежнасць Маскве трынаццатую па плошчы дзяржаву ў Еўропе — нашу Беларусь. Потым было расійскае ўварванне ў Грузію і вайсковы гвалтоўны захоп яе зямель. Захад усё хітаў галавой, усё працягваў сваю пустую рыторыку пра „перазагрузку", вёў сваю рэал-палітыку, думаючы, што ўсё неяк развяжацца само па сабе, што „кліента" можна будзе „ўгаварыць" і „перавыхаваць". Крэмль жа рабіў і далей, што хацеў — забіваў сваіх апанентаў у Лондане, купляў алімпійскія гульні і чэмпіянат свету па футболе... У выніку дайшло да таго, што Пуцін сапраўды стаў найбольш уплывовым чалавекам свету і натуральна адчуў сваё беспакаранасць і ўсёдазволенасць. Ягоную логіку зразумець сапраўды вельмі проста. Тым больш, што ў Бога ён не верыць, а гісторыі не ведае. І калі ўкраінскі народ скінуў крамлёўскага стаўленіка Януковіча, выцерпець гэта фанабэрысты ўладар Пуцін проста не мог. У выніку такое вайсковае ўварванне ў Крым і сапраўдная пагроза незалежнасці ўсёй Украіны.

Сучасная Расія — гэта калос на гліняных нагах, у гэтай дзяржавы няма ніякай ідэалогіі, акрамя ядзернай дубіны і паталагічнага на роўні біялогіі вялікадзяржаўнага шавінізму. Сённяшняя Расія — гэта невылечна хворая дзяржава, якая перажывае разлажэнне па ўсіх кірунках. Яна непазбежна разваліцца і толькі тады атрымае шанц стаць цывілізаванай і дэмакратычнай. А вось пуцінскі рэжым патрэбна было душыць яшчэ ў зародку, ратаваць ад яго шматнацыянальны расійскі народ і суседнія краіны. Трэба было ціснуць на яго дыпламатычнымі, палітычнымі і найперш эканамічнымі сродкамі. Думаю, што і цяпер яшчэ не позна, толькі наўрад ці ўсе гэтыя абамы-меркелі здольныя на нешта сапраўды рашучае і цвёрдае. Палітыкі не хочуць памятаць гісторыі, не хочуць рабіць з яе высноў. Яны жывуць найперш прагай нажывы альбо проста цешацца сваёй уладай. А цэлыя народы мусяць з-за гэтага пакутаваць. Але свет цесна зніtаваны, калі дыктатарскія рэжымы пераходзяць межы палітычнай прыстойнасці, а тым больш дзяржаўныя межы, яны ўжо не могуць спыніцца.

Да таго ж Захад не разумее прыроду палітыкі Расіі, якой ужо не менш чым 600 гадоў. Для такіх, як Пуцін, вайна — гэта „мать родная". Ён не прыдумаў нічога новага, спалучыўшы ў сваіх „вучэнні" і практыцы найгоршае з расійскага царскага імперыялізму і савецкага камунізму. За пятнаццаць гадоў яму ўдалося знішчыць дэмакратычную апазіцыю ў самой Расіі, збудаваць татальную карупцыйную і карную сістэму, аб'яднаць усе цемрашальскія, рэваншысцкія сілы, стварыць пуцін-югенд і новую гебельсаўскую прапаганду. Аднак, наўрад ці расійскі народ прагне новай вайны так, як яго кіраўніцтва, наўрад ці вытрымае гаспадарка Расіі новыя шалёныя выдаткі.

Крымская вайна 1853-1856 гадоў скончылася для расійскай імперыі жорсткай і ганебнай паразай. У разгар той вайны заўчасна памёр і цар Мікалай І, адзін з самых рэакцыйных і неадэкватных уладароў. Гісторыя развіваецца па спіралі...

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Эніалій
## у маім доме

Час ляціць, як шалёны. Што павінна меладбыцца заўтра, становіцца сёння; што ўчора, здаецца, было вякі таму. Чаму? Даўным-даўно адзін старэча, да якога я падсеўся на вясковую лавачку, так мне патлумачыў гэтыя рэчы: „Я ўсё калісьці рабіў уручную. Касіў касой, араў конікам. Ледзь паспяваў з работай, але знаходзіў час для сям'і, на забаву і на размовы з суседзямі. Сёння мой сын абрабляе тое поле трактарам. Косіць камбайнам. З жонкай, дзецьмі амаль не бачыцца. Не мае часу. Нават са сваім бацькам не паразмаўляе. Значыцца, Зямля сціснулася! Я ведаю гэта па сабе. Што прачнуся раніцай, зраблю тры крокі, а тут ужо вечар, трэба класціся спаць. Зараз і час паміраць. А я, так на самой справе, не паспеў яшчэ пажыць".

Хоць канцэпцыя старэчы даволі арыгінальная, у адным меў рацыю: Зямля сапраўды скурчылася. Свет, здаецца, пад рукой. З космасу з дапамогай спадарожнікаў можам назіраць свой уласны дом, праз інтэрнэт у рэжыме рэальнага часу прагуляцца па вуліцах аддаленых гарадоў. Бывае, больш мы ведаем пра тое, што адбылося ў Аўстраліі, чым у сваім родным горадзе ці вёсцы. Усё менш і менш ведаем. Выявы, якімі залівае нас тэлебачанне, плывуць праз мозг усё больш узбураным патокам. Не ахопліваем ужо гэтага. Не ахопліваем дадзенага нам часу. Ён працякае скрозь пальцы. Нават калі спрабуем ухапіць яго, толькі і так у жмені застанецца нам штодзённая стомленасць, паўтараючыеся моманты, размытасць малюнкаў дня. Нічога. Або дэфрагментаваная і рассыпаная галаваломка рэальнасці. Сапраўды такая ж, як тая, што нам прадстаўляе тэлебачанне. Інфармацыя аб анарэксіі сусветна вядомай мадэлі перапляtаецца з паявярхоўнай справаздачай аб галадаючых дзецях у Афрыцы. Выказванне прэзідэнта Камароўскага на журналісцкім брыфінгу пра падзеі на Украіне — з сенсацыйнай весткай аб тым, што Лех Валэнса збрыў вусы. Тэлебачанне прайграваe чаканне гледача. Адаптуецца да фільтрацыйнай здольнасці яго нырак і руху кішак, старанна размяркоўвае інфармацыі з краіны і свету. Калі глядач ідзе на ўнітаз, суправаджае яго плывучая з тэлевізара лёгкая і прыемная музыка. Калі вяртаецца, даецца яму кулінарная праграма. Парваная на асобныя часціцы рэальнасць, прадстаўленая ў тэлебачанні, адлюстроўвае дэфрагментаваную свядомасць гледача. Цэнтр яго свядомасці напаўняе вобраз вайны, але на яго ўскраінах па-ранейшаму дыміць вабным смакам рэкламаваны ў гэты момант хот-дог. Неўзабаве, аднак, уява свежаспечанай булачкі і абцякаючай тлушчыкам каўбасы засцяць карціны вайны.

Не дадзена мне было выпрабаваць войны, рэвалюцыі, паўстанні, мяцяжы, перавароты, а дробныя сутычкі з ЗОМО падчас ваеннага становішча ніякім чынам не ўключаю ў асабістую мартыралогію. Тым не менш, удзельнічаю ледзь не штодня ў кровапралітных баях, жорсткіх пацыфікацыях, масавых забойствах, што адбываюцца па ўсім свеце. Дзякуючы тэлебачанню. Седзячы ў зручным крэсле, трымаючы ў руцэ кубак гарбаты, з цыгарэткай у зубах. Удалечыні ад чалавечых пакут. Магчыма, ужо вышэйшы час для мяне, каб пабіць сваю задніцу, звальваючыся з фатэля?

І, нарэшце, я ўпаў. Некалькі дзён таму. Хоць у мяне ёсць адчуванне, што гэта было сто ці дзвесце гадоў назад, як раптам я пачуў ад тэлевізара ваенны гул Майдана. Ледзь сабраў свае чатыры літары з падлогі, зазваніў тэлефон. Мае сябры, сваякі, суседзі, інфармуючы ў пачатку, што вось паціраюць свае збалелыя азадкі, распыталі з трывогай ці і я ўпаў з крэсла. А так, вось я ўпаў з крэсла, пачуўшы ў сытай і бяспечнай Еўропе, у двух кроках ад майго дома страляніну, рэзкі свіст куль, выццё параненых, тупат ног, скрыгат падручнага ружжа: ломаў, кіёў, дубін, і паўсюдны ў баявым лязгаце крык поўны лютасці і ў той жа час страху — усёмагутны голас бажаства баявога крыку, вядомага пад імем Эніалій. Яго прысутнасць у баях пасведчыў ужо Гамер. Але быў вядомы раней, нават у мікенскі перыяд. У паэзіі грэцкай антычнасці атаясамляўся ён з богам ваеннага шалу — Арэсам. Цяпер абаронцы Майдана спазналі яго сілу. Ведаюць, за што змагаюцца. Калі чую, што нехта скардзіцца ў Польшчы на дэмакратыю, я стаўлю ў сваёй халупе барыкаду. Эніалій — са мной. Ведаю і я, за што змагаюся.

**Міраслаў ГРЫКА**



Вачыма еўрапейца

# Маршалкавы акругі

Замбраўскі, Высока-Мазавецкі, Бельскі, Сямятыцкі і Гайнаўскі паветы мелі б на асенніх самаўрадавых выбарах складаць адну выбарчую акругу. Пра такую прапанову, якая мае быць вынесена на сесію ваяводскага сейміка ў красавіку або ў маі, 27 лютага паведаміў падляшскі маршалак Яраслаў Дважанскі. На тое, якой будзе ягоная прапанова ў справе падзелу рэгіёна на акругі па выбарах дэпутатаў ваяводскага сейміка асабліва чакалі самаўрадаўцы Гайнаўскага павета і СЛД. Хацелі б яны, каб сеймік (у якім вырашальны голас мае Грамадзянская платформа, членам якой з'яўляецца маршалак, і кааліцыйны ПСЛ) так падзяліў выбарчыя акругі, каб адзін з іх ахопліваў Беластоцкі (земскі), Бельскі, Гайнаўскі і Сямятыцкі паветы. Такі менавіта падзел быў бы — на іх думку — згодны з дзейным ад 5 студзеня 2011 г. Выбарчым кодэксам, у адным з артыкулаў якога сказана: „Аб'ядноўванне паветаў не можа парушаць грамадскіх сувязей выбаршчыкаў, якія належаць да нацыянальных або этнічных меншасцей і якія пражываюць на тэрыторыі аб'яднoўваных паветаў". Несумненна, дасюлешні падзел Падляшскага ваяводства на выбарчыя акругі не адпавядае зместу гэтага артыкула, што адзначыла таксама сеймавая камісія нацыянальных і этнічных меншасцей. На гэты запіс у законе звяртала таксама ўвагу ў пісьме падляшскаму маршалку (ад кастрычніка 2013 г.) і Дзяржаўнай выбарчай камісіі Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі, якое курыруе нацменшасці ў Польшчы. Тым часам маршалак Дважанскі (па ранейшых кансультацыях з дырэктарам Дэлегатуры Краёвага выбарчага бюро ў Беластоку Маркам Рыбнікам) заявіў:

— Варта адзначыць, што Гайнаўскі павет у акругу № 4 пераходзіць не з адным, але з двума дэпутацкімі мандатамі. Гэта вынікае з выбарчай арыфметыкі. Гэтыя змены выкліканы просьбамі нацыянальных меншасцей і прапановамі з боку СЛД. Дырэктар Дэлегатуры КВБ не пакінуў нам ніякіх ілюзій, кажучы, што калі мы не праявім ініцыятывы і не нанясем адпаведных змен, справай зоймецца Краёвае выбарчае бюро, якое тады не будзе ўжо з намі раіцца.

Адзначыў:

— Пасля дэмаграфічнага аналізу, на аснове праведзеных спісаў насельніцтва (увесь час абавязваюць дэталёвыя даныя Галоўнай статыстычнай управы са спіса 2002 г. — М. Х.) я дайшоў да вываду, што перавод Гайнаўкі ў паўднёвую акругу павінен задаволіць гэтыя прапановы. Гэта кампраміс, бо ў гэтым павеце, як і ў суседнім Бельскім найбольшая канцэнтрацыя насельніцтва, якое дэкларуе прыналежнасць да беларускай меншасці. Беластоцкага павета (у адпаведнасці з Выбарчым кодэксам паветаў дзяліць нельга — М. Х.) гэтая справа тычыцца ў меншай ступені, бо толькі ўсходніх гмін: Гарадоцкай, Міхалоўскай і часткі Заблудаўскай. Але памятайма аб тым, што Беластоцкі павет самы вялікі ў Польшчы, а справа тычыцца толькі яго ўсходняй часткі.

Каб праект новага падзелу Падляшскага ваяводства на выбарчыя акругі трапіў на разгляд сейміка, неабходны меркаванні зацікаўленых паветаў, хаця для ваяводскіх радных не з'яўляюцца яны абавязковымі.

Дагэтуль на выбарах у сеймік Падляшскае ваяводства падзелена было на пяць выбарчых акруг. Акругу № 4 складаюць Бельскі, Сямятыцкі, Высока-Мазавецкі, Замбраўскі паветы, а акругу № 5 — Беластоцкі, Гайнаўскі, Монькаўскі і Сакольскі. Падзел Падляшскага ваяводства на паветы быў зроблены перад самаўрадавымі выбарамі 2010 г., яшчэ да ўступлення ў сілу цяперашняга Выбарчага кодэкса. У размове з „Нівай" Марк Рыбнік сказаў, што не ведае якое прыме рашэнне, але напэўна ўлічыць дэмаграфічна-нацыянальныя пытанні:

— Адна і другая прапановы згодныя з Выбарчым кодэксам. Калі дойдзе да абскарджання пастановы сейміка ў версіі прапанаванай маршалкам, маё рашэнне будзе выбарам меншага зла, можа прыйдзецца мне рашаць шляхам жараб'ёўкі?

Незадаволенасць прапановай маршалка ўжо выказалі падляшскі дэпутат Сейма ад СЛД Яўген Чыквін (намеснік старшыні сеймавай камісіі нацыянальных меншасцей), старшыня Беларускага саюза ў РП Яўген Вапа, староста Гайнаўскага павета Уладзімір Пятрочук і старшыня падляшскага СЛД Кшыштаф Біль-Ярузельскі. Права абскардзіць рашэнне сейміка мае, м.інш. група з пятнаццаці грамадзян. Больш аб меркаваннях у гэтай справе — праз тыдзень.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Акцёрскія здольнасці вучняў

У Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы дзейнічае тэатральны гурток, у якім пад наглядам прафесійнага акцёра і рэжысёра Іаанны Стэльмашук-Троц займаюцца вучні Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы з Гайнаўкі. Вясной мінулага года белліцэісты і белгімназісты паспяхова выступілі ў Гайнаўскім белмузеі са спектаклем, на аснове драмы светлай памяці Сакрата Яновіча «Не пашанцавала». 14 лютага гэтага года вучні гайнаўскіх белліцэя і белгімназіі, якіх успамагаў выпускнік белліцэя, паказалі акцёрскія здольнасці ў спектаклі **«Паўлінка» Янкі Купалы**, прэм'ера якога адбылася ў кіназале Гайнаўскага белмузея.





Вучні паказалі свае вялікія акцёрскія здольнасці

Спектакль рыхтавалі яны з восені мінулага года таксама пад наглядам Іаанны Стэльмашук-Троц. Надалей вучыла яна вучняў падставам акцёрскай ігры. Адначасна гайнаўская моладзь з яе дапамогай вучылася як мага найлепш перадаць публіцы атмасферу п'есы «Паўлінка». Хаця вучні раней знаёміліся з творам Янкі Купалы і на ўроках беларускай мовы праводзілі яго аналіз, справа не была лёгкай, бо падзеі ў камедыі адбываюцца ў часы, якія асабліва не цікавяць сённяшнюю моладзь. Калі я спытаў апекуна маладых акцёраў Іаанну Стэльмашук-Троц чаму рашыліся ставіць «Паўлінку» Янкі Купалы, адказ быў просты — гэта ж класіка беларускай літаратуры, а каханне — звышчасовая з'ява.

Паглядзець пастаноўку «Паўлінкі» прыбылі ў белмузей перш за ўсё гайнавяне — сябры юных акцёраў, іх сямейнікі і знаёмыя. Прыйшлі таксама пастаянныя наведвальнікі белмузейных мерапрыемстваў і жыхары горада, якім неабыякавыя беларуская літаратура і беларускі тэатр. Пра дзейнасць тэатральнага гуртка расказаў дырэктар белмузея Тамаш Ціханюк.

— У мінулым годзе, калі мы сталі рыхтавацца да пастаноўкі «Паўлінкі», адзначалася сотая гадавіна публікацыі гэтай п'есы ў друку. Гэта было адным са штуршкоў, каб выступіць менавіта з гэтым творам. Спачатку мы чыталі вершы Янкі Купалы і знаёміліся са зместам «Паўлінкі». Вучні сказалі, што гэта файная п'еса і толькі тады, калі яна спадабалася моладзі, мы канчаткова рашыліся яе паставіць, — заявіла Іаанна Стэльмашук-Троц.

Цікавым было сцэнічнае афармленне спектакля. Атмасфера падчас выступлення была *цёплай*. Моладзь, якой не хапіла крэслаў, сядзела на разасланых на падлозе музейных пакрывалах. Публіка доўга дзякавала маладым акцёрам за іх вельмі ўдалы выступ. Ад тэатральнага апекуна Іаанны Стэльмашук і ад дырэктара белмузея Тамаша Ціханюка атрымалі яны кветкі, а ад настаўніцы беларускай мовы Іаланты Грыгарук — ласункі.

— Вучні цудоўна ігралі. Няма слоў, каб апісаць талент нашай моладзі, — заявіў былы віцэ-дырэктар Гайнаўскага белліцэя Аляксандр Лаўрыновіч, які прыбыў на спектакль па асабістым запрашэнні вучняў. Паглядзець ігру моладзі прыбылі настаўнікі беларускай мовы Гайнаўскага белліцэя, згаданая ўжо Іаланта Грыгарук, Анна Каліноўская і Янка Карчэўскі, які ў ліцэі таксама вядзе тэатральны гурток. Рассакрэціў ён, што некаторыя з выступаючых гэта ўдзельнікі ягонага гуртка і прымаюць яны ўдзел у конкурсе «Сцэнічнае слова» і ў школьных мерапрыемствах. Настаўнікі былі захоплены акцёрскімі здольнасцямі вучняў.

— Ігра акцёраў была вельмі добрай. Заслужылі яны асаблівай пахвалы. Цікавым было таксама шчаслівае заканчэнне пастаноўкі «Паўлінкі», дзе закаханая пара засталася разам, калі ў арыгінале было яно трагічным (арыштавалі настаўніка Якіма Сароку — А. М.), — звярнуў увагу настаўнік Янка Карчэўскі.

— Усё ў нашай пастаноўцы добра канчаецца, бо дзе ж мае быць добра, як не на сцэне? — заявіць пазней Іаанна Стэльмашук-Троц.

— Ася Стэльмашук пэўна шчаслівы чалавек і патрэбнае было ёй шчаслівае заканчэнне пастаноўкі «Паўлінкі». Як кіраўнік тэатральнага гуртка зрабіла яна неверагоднае, бо вучні зайгралі сёння як прафесійныя акцёры, — хваліла настаўніца Іаланта Грыгарук.

Настаўнікі падыходзілі да маладых акцёраў і віншавалі іх з вельмі ўдалай ігрой на сцэне.

— Тэатральная група, з якой я займаюся ў белмузеі, гэта вельмі *файныя* маладыя асобы, якія хочуць вучыцца акцёрскай ігры і актыўна займаюцца ў час рэпетыцый. Ахвотна прыходзілі яны на сустрэчы, падчас якіх мы гулялі ў тэатр, — пахваліла маладых акцёраў Іаанна Стэльмашук-Троц. — Плануем выступіць з пастаноўкай «Паўлінкі» ў іншых месцах. Калі гаварыць пра далейшую будучыню, дык нешта падбярэм з багатай беларускай класікі, каб падрыхтавацца да чарговай пастаноўкі і паказаць яе не толькі гайнаўскай публіцы.

Моладзь Гайнаўскага белліцэя рада была, што прыйшла паглядзець ігру сваіх сяброў, а іх гарачыя апладысменты моцна ўзрушылі выступаючых. Асабліва добрай акцёрскай ігрой вылучалася белліцэістка Магдалена Гаўрылюк, якой нездарма прыдзялілі ролю Паўлінкі. Запамятаўся мне таксама вельмі добры яе выступ у час прэм'ернай пастаноўкі драмы Сакрата Яновіча «Не пашанцавала». Магдалена вядзе таксама музычныя мерапрыемствы і дабівалася поспехаў у дэкламацыі па-беларуску. Вельмі ўдала ўвасаблялася яна ў постаць закаханай дзяўчыны, якая рашылася будаваць сваю будучыню з любімым Якімам Сарокай.

— Усё, што сёння атрымалася на сцэне, удалося нам паказаць дзякуючы вялікім намаганням і доўгай працы з намі пані Асі. Мы доўга спатыкаліся і яна вучыла нас як увогуле іграць на сцэне і як іграць паасобныя партыі «Паўлінкі», — сказала Магдалена Гаўрылюк. — Мяне заўсёды цікавіў тэатр і я хацела б сваю будучыню звязаць са сцэнай. Мяне пані Ася многаму навучыла, але я спадзяюся, што яшчэ многаму ад яе навучуся. У мяне ёсць яшчэ час, бо я вучаніца першага класа белліцэя, але ў будучыні я хацела б паступіць у Тэатральную акадэмію ў Варшаву.

Альжбету, маці Паўлінкі, выдатна іграла белліцэістка Ада Прусіноўская, якая, між іншым, была пераможцам у «Беларускай гавэндзе», дэкламатарскіх і песенных конкурсах. Дзякуючы вопыту свабодна адчувае яна сябе на сцэне, што выкарыстала падчас прэм'еры «Паўлінкі».

— Рыхтуючыся да спектакля «Паўлінка» важным было адчуваць сябе так як герой, якога ты іграеш. Чытаючы п'есу, я старалася зразумець, якой асобай была Альжбета і з дапамогай рэжысёра я старалася іграць Альжбету такой, якой яна была ў камедыі. Усе мы, героі «Паўлінкі», стараліся іграць як мага найлепш. І я бачыла добрую ігру маіх сяброў, — заявіла Ада Прусіноўская. — Зараз я ўжо ў трэцім класе белліцэя і трэба вырашаць, дзе вучыцца пазней. Я хацела б паступіць у Тэатральную акадэмію ў Варшаву і разлічваю, што пані Ася дапаможа мне падрыхтавацца выступіць з чатырма творамі перад камісіяй гэтай навучальнай установы. Я вучуся ў біялагічным класе і калі б не атрымалася ў мяне з тэатральнай акадэміяй, то я хацела б стаць лекарам, а тэатрам займацца па-аматарску.

Добра запрэзентавалася перад публікай таксама белліцэістка Міхаліна Герасімюк, якая іграла Агату, жонку Пранцыся Пустарэвіча, якога ў гайнаўскай пастаноўцы назвалі Іванам.

— У нас тут завязалася сяброўства і, побач інтэнсіўных рэпетыцый, мы ў музеі жартуем, смяемся і адпачываем. Мы зараз як адна сям'я і ў школе таксама падтрымліваем сяброўства, а тое, чаму мы навучымся тут, у тэатральным гуртку, напэўна спатрэбіцца нам у пазнейшым жыцці. Маю на ўвазе адвагу выступаць перад вялікай аўдыторыяй, ці ўмеласць расказаць пра сябе перад працадаўцам, калі прыйдзецца шукаць працу. Я не бачу ў сябе асаблівых акцёрскіх здольнасцей, але хацела б стаць журналістам, — гаварыла Міхаліна Герасімюк.

Складана было добра сыграць постаць Адольфа Быкоўскага, але з гэтай задачай выдатна справіўся выпускнік белліцэя Каміль Васілюк. Важнай постацюю быў у пастаноўцы настаўнік Якім Сарока, якога ўдала іграў Барташ Васілюк, таксама добры акцёр. Сцяпана Крыніцкага іграў Пётр Апольскі (у пастаноўцы «Не пашанцавала» ён таксама іграў постаць, з якой можна было пасмяяцца).

— Я асабіста не люблю крычаць на іншых, а нават гаварыць моцным голасам, але прыйшлося выконваць ролю Сцяпана Крыніцкага і таму я стараўся на сцэне іграць строгага чалавека, — сказаў Пётр Апольскі.

Матэвуш Чурак сыграў на сцэне ролю Івана — Пранцыся Пустарэвіча, а музыкантам (так, як і ў папярэдняй пастаноўцы «Не пашанцавала») быў Рыгор Дружба, які на акардэоне ўдала ствараў музычны фон спектакля. Гайнаўскія белліцэісты і белгімназісты любяць роднае. Калі будуць прэзентаваць пастаноўку «Паўлінкі» перад вучнёўскай публікай, могуць зацікавіць моладзь класікай беларускай літаратуры.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

## Два бары ў зручным месцы

У Беластоку ёсць шматлікія бары, але няма зараз малочных. А шкада. Найбольш бараў у цэнтры горада. Раніцай або ў абедні час я даволі часта заходжу падсілкавацца ў бар «Сонечны» па вуліцы Сянкевіча або ў бар «Экспрэс» па вуліцы Складоўскай. Яны ў зручным месцы і да іх лёгка трапіць. Абодва яны належаць да розных прыватных суполак.

Важна, аднак, тое, што ў іх можна добра з'есці і не дорага. Яны прапануюць тыя стравы, якія ўжо загадзя гатовыя, але можна таксама ўзяць нешта іншае паводле свайго жадання, напрыклад, яечню, амлет або смажаную свежую рыбу.

Штодзень у барах вараць тры-чатыры розныя супы. Ёсць да выбару розныя стравы. Можна з'есці смажанае або варанае мяса з бульбай варанай у вадзе або печанай (такую, са скарынкай, пяклі мы ў прыску, пасвячы кароў) ды з кашай і з розным вінегрэтам, катлеты, паштэцікі, налеснікі з сырам або яблыкам (па заказу паліваюць іх зверху смятанай і гарачым шакаладам). Шкада, што да налеснікаў цяпер не падаюць какавы. Кожны дзень вараць кампот і кісель. Ёсць таксама ахаладжальныя напіткі ды гарачая кава і чай з лімонам.

У абодвух барах вялікія вокны, відна, цёпла, утульна ды ветлівае абслугоўванне. Стравы падаюць маладыя спрытныя дзяўчаты ў фірменных уборах. У кожным з двух бараў стаіць па шаснаццаць столікаў (64 месцы). У «Сонечным» з самой раніцы можна таксама пачытаць свежую газету.

Зараз вышэйзгаданыя бары не наракаюць на недахоп кліентаў. Заходзяць маладыя і старэйшыя наведвальнікі. Найбольш іх бывае ў поўдзень. Бары працуюць ад раніцы да 17 гадзіны пасля поўдня. Маюць яны прыгожыя назвы «Сонечны» ды «Экспрэс». У іх хутка абслугоўваюць. Іх можна рэкамендаваць любым наведвальнікам. Ім таксама будуць яны даспадобы.

**(яц)**

## Як у крызісе...

Сёлетняя пераацэнка пенсій, якая пачне абавязваць ад 1 сакавіка, будзе самай меншай ад мінулагодніх. Паўплываў на гэта нізкі паказчык пераацэнкі — 2,14%. Рахунак з гэтага просты. Дастаткова памножыць суму пенсіі нета на працэнтны паказчык пераацэнкі і атрымаем суму прыбаўкі. У сярэднім пенсіянеры атрымаюць каля 30 злотых. Пры самай нізкай пенсіі, напрыклад, 717,35 зл. плата павысіцца адно на 14,19 зл., звыш 1015 зл. — 21, 37 зл., а пры 1500 зл. — 31,05 зл.

Пераацэнка будзе праводзіцца ЗУСам, КРУСам ды іншымі ўстановамі, працаўнікі якіх карыстаюцца дапенсіённымі выплатамі і „памастуўкамі”. У агульным падліку пераацэнкай пакарыстаецца больш за дзевяць мільёнаў пенсіянераў.

**(ус)**

# Метафізічны сімвал спадчыны

**Пасля шматгадовага рамонту мітрапаліт варшаўскі і ўсяе Польшчы Сава асвяціў інтэр'ер здадзенага ў карыстанне гістарычнага, старадаўняга Палаца архімандрытаў у мужчынскім Дабравешчанскім манастыры ў Супраслі. Рамонтныя работы і абсталяванне гэтага аб'екта доўжыліся шмат гадоў, а фінансаваліся еўрасаюзнымі фондамі і датацыямі Міністэрства культуры. Памяшканнямі будзе карыстацца (у прынцыпе ўжо карыстаецца) Супрасльская акадэмія, якая размясцілася на першым і другім паверхах ды гарышчы аднаго з крылаў Супрасльскага манастыра. Ва ўрачыстасці, якая 24 лютага завяршыла рамонт г.зв. праграмнай часткі Супрасльскай акадэміі, удзельнічаў прэм'ер-міністр Дональд Туск.**



У ходзе ўрачыстасці ў палацавай трапезнай канцлер Супрасльскай акадэміі а. Яраслаў Ювзік расказваў:

— У трапезнай, у якой мы знаходзімся, будуць арганізаваны ўрачыстыя сустрэчы, прыёмы, гэта рэпрэзентатыўнае месца Супрасльскага манастыра. Усе памяшканні калісь былі пакрыты цвіллю, пазбаўленыя электраправодкі.

Канцлер паведаміў, што ў былой спартзале цяпер знаходзіцца канферэнцзал на 90 чалавек, абсталяваны сучаснай аўдыёвідэатэхнікай, з выдатнай акустыкай, што дае магчымасць арганізаваць, напрыклад, камерныя канцэрты. У аднаўленым аб'екце маюцца залы для майстар-класаў. Адна з іх (верхняя) носіць імя трагічна загінулага ардынарыя Войска Польскага, у 1984-1998 гадах ігумена Супрасльскага манастыра, архіепіскапа Мірана Хадакоўскага, а другая (ніжняя) — пакойнага Януша Качынскага, адказанага за архітэктурны бок абнаўлення. На першым паверсе знаходзіцца абсталяваная вітрынамі выставачная зала імя пакойнага Віктара Волкава — вядомага фатографа з Супрасля. Раней былі тут склады непатрэбных прадметаў. Асабліва настрою прыдаюць калідорам прыгожыя аркі. Ніжні калідор будзе таксама выконваць ролю выставачнай залы, а верхні — як увесь Палац архімандрытаў — прыстасаваны для патрэб інвалідаў. Сходам, раней цалкам разбураным, старадаўні характар быў вернуты дзякуючы ручной сталярскай працы. Бібліятэка ў сваю чаргу абсталяваная рассоўнымі паліцамі. Неўзабаве будуць яны запоўнены багаслоўскімі і гістарычнымі кніжкамі. Сярод іх — рарытэтныя выданні і старадрукі, якія будуць даступныя ў чытальні ў алічбаванай версіі. Ва ўсім будынку даступны бесправодны інтэрнэт.

На абнаўленне будынка спатрэбілася пятнаццаць гадоў. Царква атрымала Палац архімандрытаў у разбураным стане. На працягу сарака гадоў знаходзілася ў ім сельскагаспадарчая школа. Прафесар Іаннікій Назарка, член канвента Супрасльскай акадэміі, яшчэ да ўрачыстасці гаварыў:

— Такая база, размешчаная ў такім прыгожым гістарычным будынку, у месцы так насычаным гісторыяй і традыцыяй, ствараe дасканалыя, ідэальныя ўмовы для працы.

Архіерэй Беластоцка-Гданьскай епархіі, архіепіскап Іакаў перад чынам асвячэння прыгадаў:

— Пачаткі Супрасльскага манастыра сягаюць канца XV стагоддзя, калі манахі з Гарадка, у якім знаходзіўся замак маршалка Вялікага Княства Літоўскага Аляксандра Хадкевіча, выбралі гэтае пустое месца над рэчкай і пачалі будаваць новы манаскі цэнтр, які пазней атрымаў назву Супрасльскай лаўры.

Як адзначыў архіепіскап Іакаў, адкрыццё Супрасльскай акадэміі ў аднаўленым Палацы архімандрытаў было магчымае дзякуючы рэалізацыі двух еўрасаюзных праектаў. Дом паломніка (на амаль 90 месц) быў адкрыты больш чым два гады таму дзякуючы 3,5 млн. зл (у тым ліку паўмільёна было сабрана ў рамках збору добраахвотных узносаў). Кошт г.зв. праграмнай часткі Акадэміі склаў амаль 11 млн. зл. (у тым ліку 2,8 млн. зл. гэта сродкі Міністэрства культуры і нацыянальнай спадчыны). Выканаўца рамонту пакуль што чакае апошняй траншы грошай (больш за 3 млн. зл.). Плошча абноўленых памяшканняў — 3 тысячы квадратных метраў, з таго ў праграмнай частцы — 2 тыс. кв. м.

Архіепіскап Іакаў дадаў таксама:

— У нашых умовах не ўсё аказалася простае і лёгкае. Па дарозе было ў нас шмат добразычлівых людзей, але былі і такія, якія стараліся перашкаджаць... і столькі ў гэтай справе. (...) Важнай задачай застаецца яшчэ аднаўленне фрэсак і інтэр'ера галоўнага храма ды добраўпарадкаванне дзядзінца і наваколля манастыра.

Мітрапаліт Сава назваў прысутнасць прэм'ер-міністра Туска на ўрачыстасці гістарычным момантам:

— Каб быў той сённяшні дзень, трэба было прайсці доўгую дарогу. Мы пачалі першыя стараннi ў 1982 г. Спатрэбіліся два гады, каб штосьці атрымаць. Хадзіў я нават да першага сакратара (ПАРП — М. Х.), за што мяне потым асудзілі. Бог дапамог. Атрымалі мы перш за ўсё руіны, тыя, на якіх вырас прыгожы храм, а на якіх раней рос хмызняк. І тыя руіны сталі месцам, дзе людзі пачалі аб'ядноўвацца. Арганізавалі мы тут экуменічныя лагеры для моладзі: нямецкай, французскай, швейцарскай, з Усходу: з Расіі, Украіны, і моладзь сваімі рукамі будавала тое, што ўзнікла. Гэта быў першы этап, калі 4 чэрвеня 1984 г. мы пасвяцілі краевугольны камень пад адбудову Дабравешчанскага храма. Сённяшні — чарговы, адзін з многіх радасных этапаў (...). У манастыры малітва працягваецца безупынна ўвесь час, нават калі спім. Гэта асноўная задача манастыра. Але і асветная. І менавіта гэтую мэту — распаўсюджванне праваслаўнай культуры выконвае Супрасльская акадэмія, якая ўжо ўрасла ў жыццё манастыра. Служыць яна перш за ўсё прасоўванню праваслаўнай культуры, агульнанацыянальнай культуры і агульнасусветнай культуры, гэта вялікае багацце для сусветнай культуры (...). Няхай гэты дом будзе адкрыты для ўсіх у сэнсе асветным, малітоўным, грамадскім, экуменічным і любым іншым.

Сярод асоб, якім падзякаваў мітрапаліт, апынуліся былы кіраўнік Управы Рады Міністраў Ян Мар'я Ракіта, які ў 1993 г. прыняў рашэнне аб перадачы манастырскіх будынкаў у Супраслі Праваслаўнай царкве (у выніку абскарджання рашэння перадача адбылася толькі тры гады пазней).

Прэм'ер-міністр Дональд Туск у сваю чаргу адзначыў, што манастыр у Супраслі разам з Супрасльскай акадэміяй гэта падстава ганарыцца „не толькі для праваслаўных, але і для ўсяе Польшчы”:

— Тыя, што бачылі як перад вашым вялікім высілкам выглядаў манастыр, палац, добра ведаюць, што без незвычайнага, унутранага, станоўчага напружання, без супольнасці людзей, а перш за ўсё без вашай рашучасці аднаўленне ад асноў напэўна не было б магчымае. Сёння, калі глядзім на тое, што дзеецца вакол Польшчы, бачым якое вялікае значэнне мае здольнасць будаваць, і што ваша вера, незалежна ад канфесій, сваё сведчанне знаходзіць таксама ў тым, што ўмеем будаваць, дапамагаючы сабе ўзаемна, і што гэта адзіны добры адказ на разбурэнне для тых усіх, якія бачаць штосьці прывабнае ў кароткачасовым акце знішчэння.

Выказаў спадзяванне:

— Я веру, што Супрасль стане вялікім сімвалам таго, што з'яўляецца такім метафізічным аспектам матэрыяльнай спадчыны нашай гісторыі. Веру, што Супрасль будзе знакам надзеі на будучыню, што магчымай з'яўляецца сумесная праца.

З рук архіепіскапа Іакава ордэны свсв. Кірылы і Мяфодзія атрымалі асобы, якія прычыніліся да заснавання Супрасльскай акадэміі: а. Уладзімір Місіюк — аўтар праекта стварэння Акадэміі і першы яе канцлер; Барбара Качынская — удава архітэктара Януша Качынскага; Марыюш Нікіцюк — дарадчык манастыра па еўрасаюзных справах; Ян Грахоўскі — канструктар і Лявон Станкевіч — з прадпрыемства, якое было генеральным выканаўцам рамонту.

Супрасльская акадэмія — канферэнцыйны, навучальны і асветны цэнтр, які стварыла Беластоцка-Гданьская епархія, Дабравешчанскім манастыром і Фондам OIKONOMOS. Падобныя праваслаўныя ўстановы працуюць у Чэхіі, Фінляндыі, Грэцыі і Расіі. Яе асноўная мэта — распаўсюджванне ведаў аб багацці праваслаўнай веры, традыцыі і культуры, а таксама — пра што можна прачытаць у афіцыйнай інфармацыі пра Акадэмію — рэагаванне на актуальныя праблемы, змены, якія адбываюцца ў штораз больш секулярызаваным грамадстве, на патрэбы хрысціян, пражываючых у сучасным свеце. У праграме дзейнасці Акадэміі — пытанні датычныя развіцця навукі, сацыяльных напружанасцей, нацыянальных меншасцей, ролі жанчыны ў Царкве і грамадстве, дыялогу рэлігій і культур, залежнасцей, прадухілення гвалту ў сям'і і грамадстве, аховы натуральнага асяроддзя, літаратуры, сакральнага мастацтва і шмат іншага. „Шляхам розных адукацыйных, навучальных, педагагічных і мастацкіх дзеянняў Супрасльская акадэмія хоча ўплываць як на дарослых, моладзь, так і на дзяцей. З гэтай мэтай арганізуе мясцовыя і міжнародныя кароткa- і доўгатэрміновыя праграмы дзеянняў, курсы, майстар-класы, сімпозіумы, канферэнцыі — і ў залежнасці ад патрэб — іншыя формы праграмных дзеянняў.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

# Тутэйшыя паэты сустракаюцца

„Дзе ў нас на Беласточчыне найбольшая шчыльнасць паэтаў на квадратным кіламетры? — У Нараўчанскай гміне".

Гэта не жарт, а праўда. Нават калі лічыць паэтаў ужо вядомых, гэта значыць тых, якіх вершы друкуюцца, і пра якіх ведаюць людзі. А пра іх ужо ведае таксама прадстаўнік установы культуры, як ранейшая кіраўнік самаўрадавай святліцы ў Старым Ляўкове, цяпер дырэктарка Гміннага цэнтра культуры ў Нараўцы. А ведае Галена-Марыёля Рэент яшчэ пару „кропак", дзе жывуць паэты не цалкам паэтычным жыццём. І не заўсёды запісваюць свае роздумы, або складаюць свае запіскі ў стол, часам закрыты на асабісты ключык. Або вершам паэт такі гаворыць, замест прозай, як спадар Ярашук з Навін, але не кожнаму скажа, не шы чытачоў на плакатах. А першай аўтарскай сустрэчай 16 студзеня была таксама сустрэча для Алі Ясвіловіч — яна раней падаіла сваіх каровак і праз гурбы снегу з Семяноўкі дабралася ў Ляўкова з новымі вершамі (дэбютавала яна ў 2013 годзе), прывёзшы таксама захаваныя свае старыя сшыткі з творамі. І было на чым даваць ёй першыя аўтографы — нядаўна на ніўскай старонцы „Дэбют" была надрукавана падборка яе тэкстаў з мінулагодняга конкурсу, са здымкам. Не змаглі на сустрэчу дабрацца Вера Радзіванюк з Міхнаўкі і Тадэвуш Кунцэвіч з Лешукоў, але і без іх спатканне працягвалася аж тры гадзіны. Амаль навыперадкі ню — з уласнай ініцыятывы прыбыў дубінска-семяноўскі дуэт „Маня і Ваня" (Марыя Юрчук і Ваня Шыманюк), які ад сяброўскага сэрца хацеў аздобіць паэтычнае выступленне Валянціны Мядзведзь, якая прыехала на сустрэчу з сынам Андрэем, нявесткай Аняй і ўнучкам Адрыянам. Хлопчыку спецыяльна прачытаў свой верш пра мушкі Тадэвуш Кунцэвіч. „І я пішу вершы для дзяцей!" — заявіла


Галіна БІРЫЦКАЯ



перад кожным раскрыецца. Але ўдаецца спадарыні Марыёлі дайсці амаль да ўсіх, і сабраць іх перад публікай. А публіка, прытым шматлюдна, прыходзіць на такія, можа, і „малаcorrectразрыўковыя" івенты ў святліцах Нараўчанскай гміны. І просяць слухачы яшчэ раз наведаць іх з новымі вершамі, з новымі дэбютантамі, і ганарыцца імі кожная вёска, дзе жыве паэт, або і не адзін паэт, прытым ужо з розных пакаленняў. Такім пунктам з'яўляюцца, між іншым, Старое і Новае Ляўкова, доўгія вёскі спалучаныя тратуарам пасярод прыпушчанскіх палёў.

Яшчэ ў адзін са святых паслякалядных вечароў, праз мяцеліцу дабраліся ў святліцу каля керамічнага завода жыхары абодвух Ляўковаў. Аўтобус, на якім дабіралася Валянціна Мядзведзь, мінулагодняя лаўрэатка агульнапольскага конкурсу беларускай паэзіі і прозы „Дэбют" з Беластока, але ўжо тутэйшая паэтэса, бо з Семенякоўшчыны-Медзвядзёў, спазніўся на сорак хвілін. Поўная зала гледачоў і іншыя паэты цярпліва чакалі. Як прызналіся слухачы, якія прадзерліся праз завеяную ваколіцу, завабіла на аўтарскую сустрэчу перш за ўсё спадарыня Валя, адна з найбольш вядомых слухачак Радыё Рацыя — ім было цікава, як гэтая Мядзведзь выглядае, і якую яна кнігу выдала — вось тую, што „Піша Валя з-пад пушчы", значыць, згэтуль. Першую аўтарскую сустрэчу Валянціна Мядзведзь мела ўрачыстую, яшчэ ў кастрычніку 2013 года, пасля выхаду зборніка — беластоцкі клуб „Зеніт" жыллёвага кааператыва, дзе яна працавала, аддаў ёй у карыстанне вялікую залу, запрасіўшы свае новыя вершы перш за ўсё на беларускай мове чыталі яшчэ Кастусь і Янка Целушэцкія. Творы настолькі прыцягвалі слухачоў, што аўтары яшчэ чыталі свае тэксты ўжо пасля пачастунку (які заўсёды завяршае аўтарскія сустрэчы), і зацікаўленыя слухачы зноў запоўнілі крэслы перад аўтарскім сталом і чакалі выступленняў. Тая сустрэча была таксама нагодай да ўспаміну пра памерлага іхняга суседа, паэта-белавежца з тарнопальскага хутара Полымя Уладзіміра Гайдука, пахаванага на ляўкоўскім могілніку. Ягонымі вершамі пачалася і кончылася сустрэча, давёўшы да вялікага хваляваня, а нават слёз сярод публікі, асабліва ягоны верш напісаны маці. „Валодзя быццам бы тут з намі, — казалі жанчыны, паказваючы на адзінае пустое крэсла ў зале, якое стаяла, дарэчы, за сталом, за якім сядзелі аўтары. Сярод публікі паявіліся таксама маладыя аўтаркі — Юля Лясота і Вікторыя Патонец, якія таксама прымаюць удзел у літаратурных конкурсах і падтрымліваюць паэтычную традыцыю Нараўчанскай зямлі.

Чарговая сустрэча з тутэйшымі паэтамі адбылася з прыходам лірычнага знаку Рыб — 21 лютага, у галерэі імя Тамары Саланевіч у Нараўцы. І тут паявілася новая дэбютантка — вядомая не толькі на Гайнаўшчыне майстрыха-рукадзельніца з Плянты — Галіна Бірыцкая. Не ад заўздрасці за паэтычную папулярнасць тых што словам услаўляюць Нараўчанскую зямлю, а ад патрэбы душы. Прыехала яна з суседкай Марыяй Казёл, якая была вельмі рада пабыць на такой сустрэчы, пачуць родныя словы і беларускую песню спадарыня Валя, якую ўжо запрасілі да сябе ў садок № 14 у Беластоку дашкольнікі і настаўнікі. А верш у „Зорцы" дзецям надрукаваў таксама Кастусь Целушэцкі. І сярод тэкстаў Алі Ясвіловіч таксама ёсць вершы для дзяцей, і пра дзяцей. Кожны з аўтараў сказаў таксама пару слоў пра сябе. Адкуль узялося ў іх тое пісанне, што яно значыць у іхнім жыцці, хто яны самі. Бо кожны з іх іншы — і па прафесіі, і па адукацыі, і па жыццёвым досведзе. Кастусь Целушэцкі — сталяр і гаспадар, Тадэвуш Кунцэвіч — настаўнік і ляснік, Валя Мядзведзь працавала на мясакамбінаце, слесарам і прыбіральшчыцай, Мікола Варанецкі з Альхоўкі (яго вершы сталі песнямі-гімнамі Нараўчаншчыны і Ляўкова) — настаўнік, Янка Целушэцкі — солтыс Новага Ляўкова — настаўнік і журналіст, Вера Радзіванюк з Міхнаўкі — земляробка і самавук, Аля Ясвіловіч — прафесійны гаспадар, Галіна Бірыцкая — працавала на чыгунцы, рукадзельніца, вядзе агратурыстычную гаспадарку. Выдадзены зборнікі ў Валянціны Мядзведзь і Тадэвуша Кунцэвіча, але назбіралася вартых твораў і ў спадарыні Веры, шмат добрых вершаў і ў Кастуся.

Такія сустрэчы для аўтараў бываюць таксама натхненнем. Пасля ляўкоўскай і нараўчанскай сустрэч узніклі новыя вершы, якія пераклікаюцца з творамі калег. Аўтары дамаўляюцца на наступныя спатканні. Чакаюць чарговых сустрэч вёскі Баб'я-Гара і Альхоўка. А 28 лютага аўтары сабраліся ў святліцы ў Семяноўцы, а ўжо неадлучныя „Маня і Ваня" аздобілі сустрэчу спевам і жартам.

Тэкст і фота Міра ЛУКША

**Галіна БІРЫЦКАЯ, Плянта**

## Роднае слова

Хоць я ў Польшчы нарадзілася,
Мову беларуску я люблю.
З кніжкі „Роднае слова" вучылася,
Якую да сёння берагу.

1949 год яе выдання,
На сем гадоў маладша ад мяне.
Усё жыццё яна са мною,
Дзе жыву, я там бяру яе.

Выйшла замуж, дзяцей радзіла,
У хаце цеснай я жыла.
Для кніжкі „Роднае слова"
Заўсёды месца я знайшла.

За пару год дзеці падрасталі,
Трэба было хату большу будаваць.
Усім была выгода і прастора,
Было пачэснае месца
І дла „Роднага слова".

Мае дзеці вучыліся, павырасталі,
Пайшлі кожнае будаваць жыццё аднова.
Я асталася адна ў прасторнай хаце,
А са мною „Роднае слова".

Калі сяджу часам у адзіноце,
Сум прыходзіць на душу,
Бяру кніжку „Роднае слова"
І вершыкамі суцяшаю тугу сваю.

Усе вершы тут цікавы,
Пра жыццё звяроў, дзяцей забавы.
І пра радасць можна прачытаць,
І тужліва паўздыхаць.

Ой які благі мароз,
Шчыпае ў вушы і ў нос,
Не сядзіцца хлопчыку маломў,
Якога кліча рэчка, цягнуць санкі з дому.

У цёмным лесе ёлачка расла,
Зімой і летам стройная, высокая была,
Мяцеліца разгулялася,
Зайчаня пад кустом схавалася...

Пакуль што я яшчэ жыву,
Але ўжо цяпер сказаць гатова:
— Калі я ў вечнасць адыду,
Не забудзьце пакласці мне „Роднае слова"!

## Зоркі

Калі на свет родзіцца дзіця,
Зорка ў небе яму заззяе.
Паглядала б я кожны вечар на сваю,
Калі я ведала, мая якая.
На небе іх вельмі многа,
Не абняць іх усіх вачыма.
Калі прыглядзецца, адна гарыць ярчэй,
другая слабей,
а некаторая падае ўжо з неба.

## Крама

Блізка крамы я жыву,
Часта праз акно паглядаю.
Рэдка у яе хаджу,
Бо я пенсію малую маю.
За крамай расце дуб,
Прыгожы, раскладзісты, высокі.
Запрашае ён людзей
З блізкіх вёсак і далёкіх.
Сесці можна на зямлю,
І прастора тут шырока.
Нікому балагану не наробіш,
Ніхто не накрычыць збоку.
Пакурыць можна даволі,
Нікому дым не перашкодзіць.
І калі голасна не крычаць,
Жонка таксама цябе не знойдзе.
Дружна расходзяцца сябры,
Кожны апачыць да свае хаты,
І каб не прызнацца,
Каб заўтра абавязкова пад дуб прыйсці
І ад жонкі зноў схавацца!



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі


# Пятнаццаць гадоў „Беларускай гавэнды”!

„Беларуская гавэнда” — каларытная з’ява ў нашым школьным краявідзе. Гэты конкурс, на нашу думку, незаслужана застаецца ў цені масавага „Роднага слова”. Чаму так? Першая справа: „Гавэнда” сціплая, але яна жывая! Яна мае сваю моц, сваіх верных паклоннікаў, сваіх выступоўцаў. Моладзь і дзеці, якія прымаюць удзел, вельмі ахвотна апавядаюць пра ўсякія прыгоды, якія адбываюцца вакол конкурсу. Гэтая жывая абалонка — самы верагодны бок поспеху. Ёсць у гэтым вялікая шчырасць і радасць, ды прага падзяліцца гэтымі пачуццямі з іншымі. Вось, заўсёды пра атмасферу пішуць нашыя карэспандэнты, прызы і ўзнагароды для іх не самыя важныя! Важная падрыхтоўка. Менавіта „Гавэнда” заахвочвае да пошукаў, часта ўдзельнікі выступаюць з аўтарскімі расповедамі, напісанымі спецыяльна пад конкурс. У „Гавэндзе” ёсць месца для жывых дыялектаў. У маёй памяці назаўсёды астанецца выступленні дзяцей з Ласінкі. Іх гавэнда, аўтарства спадарыні Алі Станько, гэта расповед і заадно каментар на актуальныя здарэнні, прасякнуты гумарам, вобразнасцю і талентам выканаўцаў. Падобна запамяталіся вучні з Дубіч-Царкоўных. Яны ў сваю чаргу назіралі за жыццём аднавяскоўцаў і ўмелі перадаць той свет на жывой мове, з гумарам і энергіяй.



Фота Ян Карчэўскі

21 лютага, у Дзень нацыянальных моў, у гайнаўскай белгімназіі і белліцэі адбыўся 15 юбілейны выпуск „Беларускай гавэнды”. Душой і арганізатарам свята, ад пачатку, з’яўляецца настаўнік роднай мовы Янка Карчэўскі. Мерапрыемства, як заўсёды, праходзіла ў шчырай і вясёлай атмасферы. З нагоды юбілею зычым Вам далейшага развіцця, добрай паспяховасці, новых сцэнічных зорак і падтрымкі з боку асяроддзя. У сваю чаргу, як беларуская дзіцяча-моладзевая газета, мы запрашаемся ў патронаў свята!

*(больш пра „Гавэнду” ў чарговых нумарах „Зоркі”)*

**Ганна КАНДРАЦЮК**

**Габрыеля ТОРКА,**
*школа свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку*

## Пеўнікі

Былі сабе два пеўнікі,
адзін дурны, а другі глухі.

Пялі яны цэлы год,
пакуль адзін не сказаў: „Стоп,

Горла мне баліць —
я кукарэку не буду ўжо рабіць!”

Пайшла курка да індыка, сказала:
„Бяда, пеўні не хочуць кукарэкаць!”

Крыкнуў індык; „Хай пеўні пяюць уміг!
Хопіць „куку” для нас усіх!”

## Эле мэле дудкі

Эле мэле дудкі
домік малюткі

Мае чырвоныя кропачкі
і зялёныя лісточкі

У доміку жывуць
коцік і мышка

Эле мэле дудкі
домік малюткі

і там шалік шапка
боцікі і буткі



Фота Г. Кандрацюк

## Габрыся і яе вершы!

Габрыеля Торка, першая лаўрэатка Агульнапольскага літаратурнага конкурсу беларускай паэзіі і прозы, спачатку праявіла сябе як празаік. Разам са сваёй класнай сяброўкай Вікай дзяўчаткі напісалі казку ”Тры бярозы”. Іх супольны твор нарадзіўся пад уплывам экскурсіі ў Беларусь. Здавалася, дзяўчаткі пойдуць у бок празаічных твораў і будуць пісаць апавяданні пра жыццё сваёй школы і сяброў. Габрыся паспрабавала сваіх сіл у вершаскладанні. І вось як цудоўна атрымалася — яе адразу прыкмеціла камісія, вядомыя паэты і літаратураведы...

Вы таксама прачытайце вершы і скажыце сваё слова. Габрыся — вучаніца пятага класа праваслаўнай школы ў Беластоку. У яе ёсць сябры, з якімі добра і цікава пагутарыць пра беларускія вершы і апавяданні. Нядаўна, 21 лютага, мы сустрэліся на Беларускай дыктоўцы, якую найлепш напісала Віка Кардзюкевіч, аднакласніца і аднадумніца Габрысі.

Брава, дзяўчаткі!

**Зорка**

# Увага, конкурс!!!

## Загадкі з роднай хаткі (№ 10-14)

**Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку” да 16 сакавіка, найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**1.**

Ён вясною зух.
Толькі холад прыпячэ,
ён балбоча аж за двух:
„Прадам паліто, куплю кажух!
Прадам паліто, куплю кажух! „
А як пацяплее, пяе наадварот:
„Прадам кажух, куплю паліто!
Прадам кажух, куплю паліто! „
Ц......

**2.**

Яе за хвосцік
дружа,
не хапай.
Яна, гадзюка ўцячэ.
Хвосцік застанецца,
казачная нітачка
зараз жа парвецца.
Я......

**Адказ на загадкі № 7:** Лядзяш, рака, бяроза.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі Давід Івановіч, Вольга Федарчук, Давід Ясюк, Тамаш Мусюк з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку. Віншуем!

# Верабей і мыш

*Беларуская народная казка*

Жылі па суседству верабей і мыш: верабей пад страхою, а мыш у норцы пад падрубаю. Жывіліся тым, што ад гаспадароў перападала. Улетку яшчэ сяк-так — можна на полі ці ў агародзе што-небудзь перахапіць. А зімою хоць плач: на вераб'я гаспадар сіло ставіць, а на мыш — пастку.

Надакучыла ім так жыць, задумалі яны збажыну сеяць.

— Ну, што будзем сеяць? — пытаецца верабей.

— А тое, што людзі сеюць, — адказвае мыш. Назбіралі насення ды пасеялі пшаніцу.

— Што тваё будзе, — пытаецца мыш у вераб'я, — карэнне ці вяршкі?

— Сам не ведаю.

— Бяры карэнне, — параіла мыш.

— Добра, няхай будзе карэнне. Прыйшло лета. Паспела пшаніца. Мыш зжала каласы, а вераб'ю пакінула салому. Перанесла мыш каласы ў сваю нару, змалаціла, змалола, напякла пірагоў ды есць сабе зімою. Добра жыве, бяды не мае.

А верабей пакаштаваў салому — нясмачная!

Давялося яму на сметніку галоднаму зімаваць. Прыйшла вясна. Мыш вылезла з нары, убачыла вераб'я і пытаецца:

— Ну, як, суседзе, зімавалася?

— Дрэнна, — кажа верабей, — ледзьве выжыў: нясмачная наша пшаніца ўдалася.

— То давай будзем сёлета моркву садзіць: яна салодкая. Усе зайцы яе любяць.

— Давай, калі не хлусіш! — падскочыў верабей ад радасці.

Пасеялі яны моркву.

— Што тваё будзе, — пытаецца мыш у вераб'я, — карэнне ці вяршкі?

— Вяршкі! — кажа верабей. — Баюся браць карэнне: я ўжо на пшаніцы апёкся.

— Добра, бяры вяршкі.

Вырасла морква. Верабей узяў вяршкі, а мыш карэнне. Занесла яна сваё карэнне ў нару і есць сабе патроху.

А верабей пакаштаваў вяршкі, аж яны не лепшыя за пшанічнае карэнне...

Надзьмуўся верабей, ледзь не плача.

Ляціць варона. убачыла вераб'я.

— Чаго ты, верабей, надзьмуўся? — пытаецца.

Расказаў ёй верабей, як яны з мышшу сеялі пшаніцу і моркву.

Выслухала яго варона і зарагатала на ўсё горла:

— Дурны ты, верабей! Мыш цябе падманула... У пшаніцы смачныя вяршкі, а ў морквы — карэнне.

Узлаваўся верабей, прыскакаў да мышы.

— Ах, нягодніца, ах, ашуканка! Я з табою біцца буду.

— Ну, што ж, — кажа мыш, — давай біцца!

Запрасіў верабей сабе на дапамогу драздоў і шпакоў, а мыш — кратоў і пацукоў.

Пачалі біцца. Доўга біліся, а ніхто нікога не пабіў. Прыйшлося вераб'ю адступіць са сваім войскам на сметнік.

Убачыла гэта варона:

— Га, га, верабей, слабых ты сяброў сабраў. Калі б ты паклікаў марскога сокала, той адразу б усіх — і мышэй, і кратоў, і пацукоў паглытаў.

Паляцеў верабей на мора, паклікаў марскога сокала.

Прыляцеў сокал і ўсё мышынае войска паглытаў. Адна толькі мыш, тая, што вераб'я падманула, засталася: у нару схавалася.

Настаў вечар. Сокал паляцеў на ржышча начаваць. Сеў на камене ды моцна заснуў. А верабей пашчабятаў ад радасці і палез пад страху.

Тым часам хітрая мыш пабегла ў поле да начлежнікаў, ухапіла галавешку і падпаліла ржышча, дзе спаў сокал. Узняўся агонь і асмаліў сокалу крылы. Прачнуўся сокал, а ў яго крылаў няма. Пабедаваў ён ды падаўся пехатою да мора. Убачыў яго на дарозе паляўнічы, хацеў застрэліць, а сокал і кажа:

— Не страляй мяне, добры чалавек. Лепш вазьмі з сабою: як адрастуць у мяне крылы, я табе добра аддзякую.

Узяў паляўнічы сокала. Цэлы год карміў і даглядаў яго. Адраслі ў сокала крылы, ён і кажа паляўнічаму:

— А цяпер бяры мяне на паляванне. Я табе зайцоў і птушак буду лавіць.

З таго часу сокал і служыць памочнікам у паляўнічага.

Клім Латышонак на вернісажы Дароты Сульжык у Гарадку

Адрыян ДАНІЛЮК,
Міхалова

# Малы Янка

Ідзе Янка дарожкай,
Глядзіць: божая кароўка.
Здзівіўся:
Такая маленькая, а лятаць умее?
Падыходзіць бліжэй,
У лес уваходзіць,
Хату прыгожую ўбачыў.
У хату ўвайшоў...
І вячэру з божай кароўкай з'еў.

## Вершы Віктара Шведа

### Штучныя, як уласныя

Прыйшоў да лекара зубнога
Са сваёй скаргай вучань Куба:
— Цярпець мне давялося многа,
Баляць устаўленыя зубы.

— Гэта, мой дарагі, нічога,
Крышку пацярпі, сыночку,
Яны паводзіць сябе так могуць
Як нашы ўласныя зубочкі.

### У рэстаране

Бацька абедае з сыночкам,
Павучае яго шчыра:
— Нельга горбіцца за сталом,
Каб нікілі горб не вырас.

Які ж сыночка быў прыём?
Як татульку азадачыў:
— Ці можна горбіцца пад сталом,
Калі там ніхто не бачыць.

## Польска-беларуская крыжаванка № 10

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 6:

Звяз, карова, радавод, ля, дама, Амір, чары, жыта, вага. Кадры, вада, рамка, мова, во, задача, маг, ліра, звяры.

Узнагароды, **каляровыя алоўкі**, выйгралі **Мальвіна Маркевіч, Магда Хвашчэўская, Марыюш Асташэўскі** з Бельска-Падляшскага, **Рафал Новік** з Нараўкі, **Мартына Ігнатовіч, Юлія Жукевіч, Агнешка Варановіч** з Бабікаў. Віншуем!

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Książka | | | | | | Łoże | | Si | Rakietka |
| | Jak / Jan | Ubranko | Baobab | Odwilż | Gdańsk | | Litr / Leki | | | | |
| Babka | | | | | Halo / Siarka | | | | | | |
| Przylaszczka | Przebiśnieg | | | | | | | | | | |
| | | | | | | | | | Lew | | |
| | Obierki | | | | | | | Lit / Noga | | | |
| Żuk | Noga | | | | | Trzy | Nie / Usta | | | Los | |
| Żaba | | | | | Trawka | | | | | | |
| | | | Duch | | Rum | | | | | | |
| Kat | | | | Pytanie | | | | | | | |

Віктар Швед

## Нельга свайго цурацца

*Нельга есці хлеб народа*
*І грэбаваць яго мовай.*
Уладзімір Караткевіч

Штораз часцей здараецца
На сходах, канферэнцыях,
Што роднага цураецца
Наша інтэлігенцыя.

Грэбуе роднай моваю
І беларускай вёскаю,
Абраднасцю вясковаю,
Жытнёваю палоскаю.

У вёсках уміраючых
Бацькі жыццё ледзь кратаюць,
Дзяцей сваіх чакаючы
У госцікі са святамі.

Ужо бацькі вясковыя
І беларускамоўныя
Маюць кватэры новыя —
Магільнікі царкоўныя.

## Мокрае Мора

*Так і хочацца сказаць*
*Мокрае Мора*
Сяргей Чыгрын

*Юрку Баену з вёскі Мокрае*
*прысвячаю*

Пасля меліярацыі
Майго Мора з палоскамі,
Сяргей мае ў тым рацыю —
Мора звеў з Мокрай вёскаю.

Мора Мокрае, вядома,
Цяпер будзе безупынна.
І будзе жыць свядомасць:
Наша малая айчына.

Мы з Юркам сакавіцкія,
Гэта значыць вясняныя,
Марскія і крынічныя,
У вёсках закаханыя.

Барыс Руско

## Давяраю натуры

Тваё ўсведамленне
ў трохвымернай
галаграме.

З'яўляешся бесцялесным,
несмяротным
і зняволеным.

Давяраю натуры.
Астануся ў фізічнай
абалонцы,
з кропляй сонца,
з бурай жыцця
і з адчыненамі варотамі
ў той свет.

## Палатно гісторыі

З кудзелі Быту
час прадзе Хвіліны.

Ніць падзей хранікёр
навівае на верацяно памяці.

А нашчадкі паводле ўласнага
густу сцеляць палатно гісторыі.

Пераклаў з польскай мовы
Віктар Швед

# Пра Беларусь, але па-польску

Апошнім часам, калі ўкраінцы змагаюцца за свабоду і самастойнасць сваёй дзяржавы, блізкая суседка Беларусь напэўна адчувае цёплы подых волі з-над Чорнага мора. Хаця дзяржаўныя ўлады выказваюцца дрэнна аб падзеях ва Украіне, лічаць непатрэбным умешвацца ў яе ўнутраныя справы, усё ж такі здаецца, што цяпер надыдзе чарга на Беларусь, на звяржэнне яе „палітычнага звера", як піша пра Лукашэнку Пачобут у сваёй апошняй кніжцы „**System Białoruś**". Узгадваю гэтую кніжку таму, што ў ёй аўтар дакладна прадстаўляе сістэму краіны з яе прэзідэнтам на чале. Аднак апрача цяжкіх палітычных абставін, у якіх прыйшлося жыць беларусам, Захад цікавіць таксама культура і лёс звыклых жыхароў Беларусі. Доказам на тое можа быць перапоўненая зала варшаўскай бібліятэкі Дзяржаўнага інстытута замежных спраў, дзе прэзентацыю кніжкі „Беларусь. Любоў і маразм" мела вядомая чытачам „Нівы" Ганна Кандрацюк-Свярубская.

— Гэтыя рэпартажы паходзяць з розных перыядаў, — сказала ў час сустрэчы аўтарка. — Я ўвогуле апісала цэлую Беларусь, а тут прэзентую толькі тэксты з першага цыкла маіх вандровак. Гэта галоўным чынам тыя, якія паўставалі на пераломе вякоў. Думаю што ўдалося мне апісаць людзей і месцы з пачаткаў дыктатуры, тады гэта ўжо адчувалася ў паветры, але беларусы яшчэ не баяліся жартаваць з Лукашэнкі.

Кніжка „**Białoruś. Miłość i marazm**" выйшла на польскай мове ў цікавым фармаце выдання. Усе рэпартажы (іх 21), якія складаюцца на цэласць, дазваляюць чытачу паслядоўна пазнаваць краіну, якая часта здаецца быць далей, чым рэальная геаграфічная адлегласць. Тэксты папаўняюць чорна-белыя здымкі, зробленыя аўтаркай. У кніжцы няма нуды як у выпадку рэфератаў ці дакладаў пра палітычныя абставіны. Аўтарка не дазваляе чытачу стаміцца падарожжам, не забівае звыклай радасці чытання.

Сустрэчу з Ганнай Кандрацюк вяла Анна Марыя Дынэр — аналітык Дзяржаўнага інстытута міжнародных спраў па пытаннях Беларусі. Вядучая адзначыла, што ў кніжцы „Беларусь. Любоў і маразм" знайшла ўсё тое, за што любіць гэтую краіну:

— У рэпартажах паказаная такая Беларусь, у якой я добра сябе адчуваю. Прыгожая і брыдкая, вясёлая і сумная. Згэтуль я даведалася як выглядае правінцыя. Веру, што ў будучыні сама змагу пабываць у такіх месцах.

Сустрэча з Ганнай Кандрацюк-Свярубскай прыцягнула ў бібліятэку шмат людзей, якім цікавыя важныя пытанні пра Беларусь, яе культуру і штодзённае жыццё звыклых людзей. Прысутныя былі зацікаўленыя таксама самой аўтаркай як журналісткай тыднёвіка беларускай меншасці ў Польшчы. Аўтарцы, вядома, не ўдалося пазбегнуць тэмы палітычных абставін на Беларусі, аднак адказы галоўным чынам адносіліся да пытанняў пра тоеснасць народа, яго культуру, кухню, сітуацыю беларускай мовы, школьніцтва на Беларусі і сярод беларускай меншасці Падляшша.

— Не толькі палітыкай цікавіцца чалавек, не толькі гэтым жыве, — сказаў прысутны на прэзентацыі кніжкі выпускнік варшаўскай паліталогіі Дамінік Вільчэўскі, цяпер працаўнік Варшаўскага ўніверсітэта. — Вядома, палітыка хутчэй ці пазней пацікавіцца намі. Аднак думаю, што каб даведацца чагосьці больш пра Беларусь варта зацікавіцца жыццём звыклых людзей. Вядома, палітыка дамінуе ў СМІ, аднак нельга глядзець на Беларусь толькі праз прызму палітычных падзей і Лукашэнкі.

У кніжцы апісаныя месцы важныя для беларусаў. Большасць рэпартажаў аўтарка папаўняе гістарычнымі адступленнямі. Мінуўшчына такіх гарадоў як Нясвіж, Мір ці Ліда можа напаўняць гордасцю, аднак за хвіліну чытач даведваецца, што „двор і падземелле час ад часу залівае калгасны гной", адчуваецца пах фенолу, а брахлівыя сабакі і чароды варон толькі дапаўняюць прыгнятальную цэласць. Усё ж такі для аўтаркі найважнейшыя людзі, якіх сустракае выпадкова ў задымленых папяросамі барах, на лавачках. Тут вырашае збег абставін і дзіўныя знакі, якія — як адчытвае аўтарка — паходзяць з іншага вымярэння.

— Мяне гэтая кніжка вельмі зацікавіла беручы пад увагу тое, што ў канцы хтосьці напісаў пра людзей, культуру, а не пра Беларусь як краіну зняволеную, краіну Лукашэнкі, — адзначыла жыхарка Варшавы Магдалена Любельская. — Гэтыя культурныя пытанні проста больш цікавыя для мяне, чым чарговая кніжка пра рэжым на Беларусі.

Сустрэчу завяршыла пытанне, без якога прэзентацыя гэтай кніжкі яшчэ не абышлася: Чаго больш аўтарка адчувае да Беларусі: любові ці маразму? Ганна Кандрацюк-Свярубская патлумачыла, што якраз любоў да Беларусі гэта тая сіла, якая давяла да паўстання цыкла рэпартажаў і самой кніжкі „Беларусь. Любоў і маразм". Магчыма і яна была прычынай спантаннага воклічу „Жыве Беларусь!" на канец сустрэчы з Ганнай Кандрацюк-Свярубскай,







Тэкст і фота Уршуля ШУБЗДА

20 лютага ва Управе Бельскай гміны адбылася канферэнцыя прысвечаная праекту „Вяртанне ўласцівага выгляду экасістэм абшару Натура-2000 Муравы ў Гацьках”. Натура-2000 гэта еўрасаюзная праграма стварэння супольнай сеткі прыродаахоўных абшараў. Мэтай гэтай праграмы з'яўляецца захаванне біятопаў і арганізмаў, якіх існаванне апынулася пад пагрозай. У Польшчы праграма цяпер ахоплівае каля 850 біятопаў, якія займаюць каля пяціны тэрыторыі краіны. Муравы ў Гацьках гэта біятоп еўрасаюзнага значэння, для якога быў выпрацаваны першы ў Польшчы План ахоўных задач (Plan Zadań Ochronnych — PZO). Даходзіць сюды ксератэрмічная расліннасць, тыповая для сухіх і цёплых улетку абшараў Паўднёвай Еўропы.


Кшыштаф Вольфрам, Ян Мордань і Анна Наліваек

# Муравы ў Гацьках

Канферэнцыю адкрыў старшыня фонду Зялёныя лёгкія Польшчы Кшыштаф Вольфрам. Выказаў ён меркаванне, што паколькі праект такога характару праводзіцца ў Польшчы ўпершыню, дык трэба сабе ўсвядоміць, што з'яўляемся сведкамі новага зачыну, а гэта дасць нагоду для новых роздумаў. У праекце ўдзельнічаюць розныя суб'екты. Гэта шмат людзей, заангажаваных у праект, якім належыцца шчырая падзяка. На здзяйсненне гэтага праекта маем прызначаны звыш шасцісот тысяч злотаў, галоўным чынам з фонду Інфраструктура і асяроддзе, з Ваяводскага фонду аховы асяроддзя і воднай гаспадаркі. Праект меў быць рэалізаваны з сакавіка 2013 да снежня 2014 года, дамова была падпісана ў палове мінулага года, аднак падгатоўчыя працы вяліся ўжо раней.

Анна Кас'янюк з Фонду Зялёныя лёгкія Польшчы прадставіла асновы праекта. Гэта выкошванне, а таксама выпас угоддзяў біятопа; дзеля гэтага маем статак каля пятнаццаці авечак, якія спадар Ян Мордань руплiва даглядае.

— Важнай справай, — сказала яна, — для вяртання ранейшага стану прадбачванага для рэкультывацыі абшару, для атрымання квяцістай муравы, з'яўляецца таксама высечка самасейных дрэў, што выраслі ў месцы рэалізацыі праекта; пад высечку прадбачана 114 дрэў. Праводзім таксама інфармацыйна-прамацыйныя сустрэчы з жыхарамі Гацькоў і суседніх вёсак на тэму праекта. Хочам выдаць інфарматар, які дапаможа распазнаваць спецыфічныя для ахоўванага абшару расліны — пад леta павінен ён быць гатовы. У плане таксама ліквідацыя дзікіх звалак і рэкультывацыя тых месц. Прасоўваем таксама конкурс для ўладальнікаў грунтаў, якія закране праект — дзеля заахвочвання да яго рэалізацыі. Бо адной з перадумоў праекта з'яўляецца вядзенне экстэнсіўнай гаспадаркі грунтамі, якія маюць да праекта дачыненне.

— Нашай задачай з'яўляецца сусэльнае вывучэнне біяразнароднасці абшару, ужо ахоўванага як апора сістэмы Натура-2000, прыроднага больш абшырнага комплексу, — сказаў доктар Дан Валкавыцкі з Беластоцкай палітэхнікі. — Цэнтрам нашых доследаў, аднак, астаецца наваколле вёскі Гацькі. Гэта абшар тыповага сельскагаспадарчага ландшафту, які захаваўся да паловы XX стагоддзя. Краявід вёскі падлягае зараз дынамічным і жорсткім зменам, звязаным з рэгрэсам сельскай гаспадаркі, з дэпапуляцыяй вёскі, якія цягнуць за сабою і прыродныя змены. Пакіданыя палі і сенажаці абляясіоюцца штучна. Гэтыя працэсы менш кранаюць Бельскую гміну, чым іншыя абшары ваяводства, хаця і тут абшары з ксератэрмічнай расліннасцю ўсё ж такі былі закрануты згаданымі працэсамі грамадска-эканамічнага характару. У гэтым сельскагаспадарчым ландшафце хочам вызначаць месцы асабліва каштоўныя з прыроднага пункту гледжання, значыць тыя, якія захоўваюць асабліва многа відаў расліннасці і жывёл розных сістэмных разрадаў. Гэта „гарачыя” з прыродаахоўнага пункту гледжання месцы, якія ў навуковай тэрміналогіі займелі англійскую назву hot spots. Гэта невялікія абшары, часта звонку гаспадарчага інтарэсу, мікраасяроддзі, невялікія фрагменты краявіду. Гэта могуць быць зараснікі, балоты, невялікія вадаёмы, ручайкі, якія пры экстэнсіўным выкарыстанні захоўваюць багатыя папуляцыі раслін і жывёл, у тым ліку і ахоўваных законам, якім пагражае гібель у мясцовым ці ў шырэйшым маштабе. Адной з мэт нашых прац ёсць апрацаванне суцэльнай ахоўнай праграмы. Вядома, найважнейшым аб'ектам нашага зацікаўлення з'яўляюцца ксератэрмічныя муравы. Гэта травяністыя комплексы, дзе расце вельмі многа ярка квітучых раслін, многа насякомых і іншых відаў жывотных, якія выступаюць у сонечных нагрэтых месцах, асабліва на схілах узгоркаў, багатых карбанатам кальцыю, які з'явіўся ў выніку напаўнення шчылін у растаючым ледавіку. На гэтых схілах цягам многіх стагоддзяў пасвілася жывёла. Гэты метад сельскагаспадарчага выкарыстання зямельных угоддзяў пагас у 1970-х гадах. І мэтай нашага праекта з'яўляецца абнаўленне тых менавіта форм выкарыстання зямлі.

Нашы даследаванні ідуць у трох напрамках: геалагічна-гідралагічным, расліным і жывёльным. Вызначаючы абшар для прыроднага апісання, выходным пунктам прынялі мы шматгадовыя даследаванні, праведзеныя ў белавежскай геабатанічнай станцыі, распачатыя ў 1960-х гадах прафесарам Янушам Фалінскім, які ўпершыню ў наваколлі Гацькоў — каля Праневіч, Грыневіч-Вялікіх, Катлоў, Саботкі і Белай — вызначыў астраўкі прарастання ксератэрмічнай расліннасці. Цяпер вызначаны абшары ахопленыя фармальнай аховай у рамках праекта Натура-2000; зараз гэтыя дзялянкі ахопліваюць плошчу пад 4600 гектараў, распаложаных на поўнач ад Бельска-Падляшскага. Ёсць там невялікія лясныя комплексы, ручайкі і рэчкі, балоты, кэмавыя ўзгоркі, якія яшчэ ўжыткуюцца або ўжо і не.

Зараз у гідралагічна-геалагічным плане праводзяцца дакладныя разведкі грунту дзеля вызначэння карэляцыі ягонага складу з характэрнай яму расліннасцю і жывёльным светам. У батанічным плане зараз праводзіцца поўны перапіс раслін, асабліва тых, якія ахоўваюцца законам, якім пагражае гібель, якія занесены ў Чырвоную кнігу. У выніку паўстане карта размяшчэння гэтай расліннасці. Будзе выпрацавана ацэнка прыроднай вартасці тых месц. Жывёльны свет больш разнастайны чым расліны і толькі некаторыя групы жывёл будуць прымацца пад увагу, асабліва матылі і жукі. У нашым полі зроку маем дзесяць відаў раслін, ахопленых строгай аховай і тры віды, якіх ужо на гэтым абшары няма, а якія яшчэ ў палове мінулага стагоддзя тут былі. Апрача іх маем на гэтым абшары чатыры расліны, якім пагражае гібель у маштабе краіны. Найперш трэба згадаць пра каласоўнік жытні (stokłosa żytnia) — гэта такая трава якая захоўвалася толькі дзякуючы традыцыйнаму земляробству. Маем тут дачыненне з даволі парадаксальнай сітуацыяй, калі расліну, якая лічыцца шкоднай для культурных раслін, трэба браць пад ахову ад гібелі. Гэтая расліна асабліва няўстойлівая перад пестыцыдамі, яе ўплыў на ўраджай невялікі, аднак з прымяненнем новых сельскагаспадарчых прыёмаў яна стала чэзнуць з сельскагаспадарчага краявіду. Іншай вартай увагі рэдкай ужо раслінай з'яўляецца анемон лясны (zawilec wielkokwiatowy), якога шмат акурат каля Гацькоў, бадай найбольш у маштабе паўночна-ўсходняй часткі Польшчы. Каля Гацькоў расце і гарычка крыжападобная (goryczka krzyżowa); найбліжэй адсюль можна яе знайсці каля Ломжы... Расце ў нас і вастралодачнік валасісты (ostrołódka kosmata), і пальчатакарэннік мяса-чырвоны (kukułka krwista). Рос калісь тут і ятрышнік смярдзючы (storczyk cuchnący), якога зараз няма, але аказаўся пад Візнай. Ёсць гранатнік (oleśnik górski), вапнаўка (gipsówka wiechowata — яна пад Грыневічамі-Вялікімі), першацвет веснавы (pierwiosnek lekarski).


Дан Валкавыцкі

Гэтыя кветкі пералічыў дакладчык, але на слайдзе паказаліся яшчэ назвы іншых: асока ранняя (turzyca wczesna), кадэнія сумніўная (selernica żyłkowana), гусіная цыбуля пакрывальцавая (złoć pochwolistna) і жыціца (życica roczna). Варта слоў пару прысвяціць апошняй — у зернях гэтай расліны прысутнае ядавітае рэчыва, якое выклікае непрыемныя атручэнні арганізма. Жыціца настолькі каварная, што яна стала евангельскім сінонімам усялякага зла. Гэта пра яе мова ў прытчы пра пустазелле, што ў трынаццатай главе (радкі 24-30) Евангелля ад Матфея. Расце яна, як бачна, і ў Святой Зямлі, і ў нас — гэта ўзорная ксератэрмічная расліна. І зноў парадокс, што трэба ахоўваць той суб'ект, які з'яўляецца тэалагічным сімвалам рассейванага нячыстымі сіламі зла...

Апрача ксератэрмічных узгоркаў у абшары Натура-2000 маем зараснікі ядлоўцу на пашавым узгорку побач беластоцка-бельскай шашы ў Гацьках, нефертылізаваныя пашы, памяркоўна кошаныя сенажаці, праточныя тарфовішчы ды балотныя лясы.

З мясцовага жывёльнага свету варта згадаць пра няпарны чырвонец (czerwończyk nieparek), матыль, што харчуецца лічынкамі мурашак, які апынуўся пад строгай аховай. З млекакормячых вартая ўвагі мыш-малютка, якая гняздуецца на злакавых сцяблінах. Магчыма, што знойдуцца тут і іншыя прадстаўнікі ахоўванай фаўны, напрыклад, хамякі.

Ян Мордань, старшыня згуртавання „Гай”, расказаў пра захады за захаванне прыродна-культурных каштоўнасцей наваколля Гацькоў і ролю ў гэтым працэсе мясцовага грамадства. Падкрэсліў ён менавіта важнасць гэтай ролі, дбайнай ролі мясцовага насельніцтва, якая яшчэ не ўсімі ўсвядомлена, але і ў гэтым ракурсе ёсць прагрэс — так у стаўленні мясцовых гаспадароў да праекта, як і ў стаўленні да іх вонкавых суб'ектаў.

Ролю мясцовых жыхароў і мясцовых адміністрацыйных органаў — управы гміны, зямельных агенцтваў ці надлясніцтва — у рэалізацыі прыродаахоўных мерапрыемстваў падкрэсліў таксама Кшыштаф Вольфрам.

Старшыня бельскай Гміннай Рады Валянцін Галушэўскі паведаміў, што дзеянні гмінных улад кіраваліся ў тым напрамку, каб каштоўныя з прыроднакультурнага пункту гледжання грунты трапілі ў добрыя рукі.

Анна Міранюк з Гацькоў заклікала прысутных, каб мелі больш даверу да мясцовых людзей. Яна расказала пра свой асабісты вопыт з закладкай экалагічнай свядомасці, калі ў дзяцінстве ейныя сямейнікі ўсведамлялі яе, што калі сарве сабе раслінку-кветку, якіх вельмі мала, то тыя прыгожыя раслінкі могуць зусім знікнуць.

Доктар Валкавыцкі дадаў, што праграма аховы прыродна-культурных каштоўнасцей у Гацьках спрацавала дзякуючы не толькі зацікаўленню прафесара Фалінскага, але і настойлівасці Яна Морданя, які прабіваў ёй дарогі ў розных установах Бельска і Беластока. Ахоплены аховай абшар каля Гацькоў зусім адрозны ад іншых, бо мясцовыя муравы з'яўляюцца вынікам ранейшай земляробчай дзейнасці і праграма прадбачвае вяртанне закінутай у апошнім часе традыцыйнай апрацоўкі зялёных угоддзяў. Прыродаахоўныя дзеянні выклікаюць насцярожанасць так з боку ўласнікаў грунтаў, як і з боку мясцовага самакіравання: апасаюцца яны ўвядзення нейкіх абмежаванняў. У Гацьках гэтай праблемы няма, бо тут аховай ахоплены, з агратэхнічнага пункту гледжання, няўгоддзі.

Рыгор Данільчук з Грыневіч-Вялікіх звярнуў увагу, што інтэнсіўнае гаспадаранне з'яўляецца не надта вялікай пагрозай для прыроды, бо карысці ад яго толькі фармальныя — большы аб'ём, але горшая якасць атрыманых кармоў, якіх дабытак не хоча есці. Пагрозу відаць з іншага боку, напрыклад квадавыя рэйды маладых людзей, якія вельмі разрушаюць экалагічны парадак.

Кшыштаф Вольфрам даў волю марам, уяўляючы, што ў будучыні Гацькі могуць стаць адным з яркіх аблігатных пунктаў на турмаршруце ў Белавежу, дзе будзе багатая спажыва і для душы, і для цела. Здараецца, што мары збываюцца...

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# „Місаед-2014”

Да супрацоўніцтва ў арганізацыі сёлетняга крынскага „Місаеда” людзі далучаліся спантанна. Хтосьці заранёў запланаваў наварыць вялікі саган картачоў, іншы захацеў падзяліцца фаршыраванымі яйкамі. Удзельнікі мерапрыемства папрыходзілі ў Каўказскую сінагогу па вуліцы Пілсудскага з хатнімі пірагамі, каўбасою, агуркамі, грыбамі і з нечым яшчэ.

Адна жанчына надумалася дапамагчы мерапрыемству дваццаццю злотамі. „На што каму грошы”, — падумалі арганізатары „Місаеда” — Культурнае аб'яднанне „Тэрра інкогніта”, Гмінны асяродак культуры ў Крынках і Крынская публічная бібліятэка. Дваццаць злотых усё-такі аказаліся збаўчым дарам. Іх дакінулі да заплаты ўласніку сямімеснага прыватнага бусіка, які згадзіўся ўключыцца ў перавоз артыстаў з Супрасля ў Крынкі. Праўда, артысты былі не супрасльскія, а гайнаўскія, а ў Крынкі адправіліся яны не на крынскім, а на сваім гайнаўскім аўтобусе.

На паўгадзіны да пачатку мерапрыемства выявілася, што вялікае гайнаўскае „Рэха пушчы” папала ў аўтобусную аварыю. У зале крынскай сінагогі ўжо пачалі збірацца місаеднікі. Сваёй прысутнасцю захапіў іх знянацку намеснік прэзідэнта Беластока Аляксандр Сасна з жонкай. Прыбыла і старшыня Гміннай рады ў Крынках Аліцыя Трызна з мужам і грашовай падтрымкай. Перад арганізатарамі з'явілася няпростае заданне спалучэння паспяховага правядзення мерапрыемства і акцыі ратавання гайнаўскіх харыстаў.

А ў глядзельнай зале Каўказскай сінагогі, пакуль гайнавяне пяццю курсамі прыехалі ў Крынкі і адначасна ратавалі свой аўтобус, ужо рашчынялі дражджовае цеста і ляпілі масленічныя бондачкі з джэмам. Гэтым заняткам камандаваў шматгадовы працаўнік легендарнай крынскай пякарні Генрык Кузьміцкі. Перш чым кругленькія бондачкі пачалі румяніцца ў гарачым масле, місаеднікі змаглі даведацца пра масленічныя абычаі Крыншчыны, выслухаць мясцовых легенд і паглядзець фільмавы дакумент аўтарства Тамаша Вісьнеўскага. Спадар Тамаш ад нейкага часу дапамагае Культурнаму аб'яднанню „Тэрра інкогніта” ў зберагаанні спадчыны мясцовага насельніцтва. Героем місаеднага паказу быў Мікалай Байгуз, а дакладней — эпізод з мінулага яго роднай Нетупы. Спадар Мікалай, нетупскі скрыпач, узяў таксама ўдзел у мерапрыемстве. Супольна з акардэаністам Анатолем Дарошкам, бубнам і спевам аўтаркі артыкула выканалі яны некалькі колішніх песень і танцаў. Крынская вечарына была для „Капэлы з-пад Крынак” з трох чалавек размінкай перад фестывальным выступам у Беластоцкай філармоніі, запланаваным на наступны дзень. Разаграваца капэле дапамагаў таксама выдатны гайнаўскі баяніст Мікалай Мяжэнны. Спадар Мяжэнны фактычна не сыходзіў за сцэны. Тут ужо і шлейка ад баяна адарвалася, але ж гэта не вельмі перашкодзіла сапраўднаму музыканту. Пачутыя мелодыі настроілі многіх прысутных на хвалюючыя ўспаміны. Іншым было гэта сапраўднае адкрыццё, сутыкненне з уласнымі каранямі.


http://gok-krynki.pl




Гайнаўскае „Рэха пушчы”

Да крынскага місаеднага канцэрта паступова далучаліся харысты — пасажыры пашкоджанага аўтобуса. Першыя творы выканалі яны ў варыянце на шэсць чалавек, неўзабаве далучыліся чарговыя чацвёра спевакоў, потым зноў шасцёра. І так на канец сабраных захапіла дваццаць гучных і чыстых галасоў гайнаўскіх харыстаў.

Надышла пара выцягваць са скаварод гарачыя бондачкі і сядаць за супольнымі сіламі падрыхтаваны стол. Далей пайшлі песні і танцы. У гэты раз не са сцэны, а з-за стала. Гулялі гайнавяне і крынчане, дарослыя і дзеці, пастанныя і новыя сімпатыкі крынскага „Місаеда”.

А яшчэ ўдзельнікам мерапрыемства быў падрыхтаваны незвычайны сюрпрыз. Праз пасрэдніцтва Радыё Рацыя крынскія місаеднікі змаглі перадаць цёплыя прывітанні і песню ўсім жыхарам польска-беларускага памежжа.

Арганізатары нізка кланяюцца ўсім, хто ласкава дапамог у здзяйсненні незабыўнай вечарыны, у тым ліку Вытворча-гандлёваму кааператыву „Крынка” і пякарні „Rogale” з Нараўкі.

Іаанна ЧАБАН




## http://my-historica.org

Падзеі ў Крыме, куды Расія ўвяла свае войскі, распачаўшы па сутнасці вайну супраць Украіны, яшчэ раз паказваюць, наколькі моцны ўплыў мае не проста гісторыя, а яе тлумачэнне. Здаецца, усё зразумела — Крым гэта Украіна, і ўвядзенне туды войскаў трэба разглядаць як агрэсію адной краіны супраць другой. Але ў Расіі лічаць Крым сваім, які з-за нейкага непаразумення апынуўся ў складзе іншай дзяржавы. Тое, што Крым далёка не спрадвек быў расійскім, у Расіі не ўзгадваюць. Як амаль не ўзгадваюць пра карэнных тубыльцаў — крымскіх татараў, якіх пры Сталіне, акурат тады, калі Крым быў цалкам расійскім, рэпрэсавалі і амаль знішчожылі, а рэшткі народа вывезлі ў Сярэднюю Азію.

Так і атрымліваецца, што кожны любіць тую гісторыю, якая яму падабаецца. Рускія любяць тую, дзе Крым расійскі, крымскія татары, якіх гэтыя рускія звялі да нацыянальнай меншасці, больш цягнуцца да Украіны, бо тая іх па меншай меры не прыціскала. А ўкраінцы ад 50-х гадоў, калі тагачаснае кіраўніцтва СССР перадало Крым з Расіі ва Украіну, пэўна, яшчэ не маюць той крымскай гісторыі, якую хацелі б любіць. Таму так лёгка расіяне адабралі там у іх уладу і ўласна паўвостраў.

У беларусаў з гісторыяй усё прасцей. Для адных яна ўмяшчаецца ў сто гадоў, якія хутка мінуць ад Кастрычніцкага перавароту ў Расіі, для другіх беларуская гісторыя гэта БНР, Каліноўскі, Вялікае Княства Літоўскае. І тут зноў кожны любіць „сваю” гісторыю, не ўспрымаючы памяркоўна ніякую іншую.

Вось на сайце „Historica”, што месціцца ў інтэрнэце па адрасе http://my-historica.org, можна пабачыць гісторыю, пра якую часцей за ўсё прамаўляюць па-беларуску, гэта значыць тую, якая тычыцца сярэднявечча, першай Рэчы Паспалітай, Расійскай імперыі.

Калі цікаўны карыстальнік зазірне на даны сайт, то перад яго вачыма адкрыецца даволі прыемнае выяўленне. Так, побач з напісанай лацінкай назвай сайта месціцца частка нейкай карціны, дзе ваяры з „Пагоняй” на харугвах б'юцца з рыцарамі пад сцягамі з чорнымі арламі на жоўтым фоне.

Ніжэй пераліку рубрык злева — інфармацыя пра збор ахвяраванняў на помнік каралю Міндоўгу ў Навагрудку. Справа, а цэлая старонка падзелена на дзве часткі, знаходзяцца загалоўкі і кароткія анонсы артыкулаў. У большасці яны тычацца азначанага вышэй перыяду гісторыі Беларусі — „Гісторык Алесь Смалянчук: «Скірмунты стварылі на Палессі наш Ліверпуль на Ясельдзе»”, „Культурна-гістарычная канферэнцыя, прысвечаная 150-годдзю паўстання 1863 г. пад кіраўніцтвам К.Каліноўскага (выснікі кампаніі «1863»)” і гэтак далей.

Нягледзячы на тое, што сайт даволі цікавы, даведацца падрабязнасці пра тых, каму ён належыць, цяжка. Так, у рубрыцы „Кіраўніцтва” мы ўбачым партрэтныя фотаздымкі членаў Прэзідыума Рады „Гісторыкі” — трох прыгожых дзяўчын і аднаго хлопца. А на старонцы „Пра нас” няма ніякай інфармацыі аб іх і ўласна іх арганізацыі.

Праўда, паблукаючы па інтэрнэце некаторыя звесткі пра „Гісторыку” і яе актывістаў знайсці можна. Напрыклад, на сайце „Альтэрнатыўная моладзевая платформа” пра сябе распавядае старшыня гэтага грамадскага аб'яднання Таша Міхайлоўская.

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

## Дата з Календара

Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара



Бацька беларускай драматургіі

# 70 гадоў з дня гібелі Францішка Аляхновіча

З сакавіка 1944 г. у час Другой сусветнай вайны ў Вільні ў сваёй кватэры невядомымі быў забіты Францішак Аляхновіч, беларускі нацыянальны дзеяч, драматург, тэатрал, адзін з выдатных прадстаўнікоў айчыннай культуры.

Нарадзіўся Францішак Аляхновіч 9 сакавіка 1883 г. у Вільні. Ягоны бацька паходзіў з Радашковічаў, быў прафесійным скрыпачом і працаваў у розных віленскіх тэатральных аркестрах. Упершыню ён узяў Францішка на спектакль, калі таму было ўсяго пяць гадоў. Ранняе знаёмства з тэатральным падмосткамі абумовіла шчырае захапленне юнака тэатральнай справай. Ён быў захоплены тэатрам, што замінала ў атрыманні пачатковай адукацыі ў Вільні. Урэшце ён паступіў у Кракаўскую драматычную школу. 19-гадовы Францішак у прывакзальным шынку звярнуўся па дапамогу да нейкага Кулешы, які выставіў будучага драматурга за свайго пляменніка і дапамог яму атрымаць пропуск на імя 25-гадовага Андрэя Кулешы.

Увосень 1904 г. Аляхновіч перабіраецца ў Варшаву, дзе паступае ў Драматычную школу пры Музычным таварыстве, якую заканчвае ў 1907 г. Пазней, год папрацаваўшы акторам аднаго з польскіх вандроўных тэатраў, вяртаецца назад у Вільню і вырашае прысвяціць сябе журналістыцы. На гэты час прыпадае збліжэнне Францішка з актывістамі асяроддзя „Нашай нівы”, што прадвызначыла ягоную ролю ў беларускім нацыянальным руху. У канцы студзеня 1910 г. Францішак Аляхновіч разам з Ігнатам Буйніцкім і Аляксандрам Бурбісам рэжысіруе пастаноўку перакладзенай з украінскай мовы на беларускую п'есы Марка Крапіўніцкага „Па рэвізіі”, адначасна выконваючы і ролю актора. Гэта быў першы беларускамоўны спектакль у Вільні, які меў сенсацыйны поспех.

У 1913 г. Аляхновіч за вальнадумства ўдруку быў зняволены расійскімі ўладамі ў віленскую турму на Лукішках, там ён пачаў пісаць драматычныя творы. Выйшаўшы з вязніцы, працаваў маляром, пажарнікам, кантралёрам электрасетак і адказным рэдактарам за „лацінскія” нумары „Гомана”. Віленскі перыяд тэатральнай дзейнасці 1916-1918 гг. быў для яго вельмі плённым. Потым быў мінскі перыяд, а ў 1920 г. зноў вяртанне ў Вільню.

У 1926 г. Аляхновіч пераехаў на працу ў БССР, а неўзабаве апынуўся ў мінскай турме. Засуджаны да 10 гадоў савецкага канцлагера і адпраўлены ў Салаўкі. У пачатку 1933 г. быў абменены на беларускага палітыка і філолага Браніслава Тарашкевіча.

Аповесць Аляхновіча „У капцюрох ГПУ” — першы твор сусветнай літаратуры, які апісвае жыццё ў сталінскім канцэнтрацыйным лагеры непасрэдна арыштантам. П'есы Францішка Аляхновіча актыўна ставіліся аматарскімі і паўпрафесійнымі калектывамі Заходняй Беларусі, Латвіі, Чэхіі і найбольш трупай Уладзіслава Галубка. За плённую працу Аляхновіча на ніве тэатра яшчэ пры жыцці яму прысвоілі тытул „бацькі навейшай беларускай драматургіі”.

Па розных версіях драматурга забілі ні то савецкія партызаны, ні то — акаўцы, ні то фашысты. Хто здзейсніў гэты тэрарыстычны акт — застаецца невядомым. Пахаваны Францішак Аляхновіч быў на Кальвінісцкіх могілках, якія былі знішчаны ў савецкі час. У 1989 г. сімвалічна перапахаваны на могілках Росы. Там зараз помнік з вельмі таннага матэрыялу, які пастунова разбураецца.

Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

1 ☞ працяг

# Датацыі без кансервацыі

Віцэ-міністр Гускоўскі ў ходзе сустрэчы спаслаўся на прапанову новага падзелу выбарчых акруг у Падляшскім ваяводстве перад асеннімі самаўрадавымі выбарамі ў адпаведнасці з новым Выбарчым кодэксам, паводле якога аб'ядноўваючы паветы нельга парушаць грамадскіх сувязей, якія спалучаюць выбаршчыкаў з ліку нацыянальных і этнічных меншасцей, пражываючых на тэрыторыі аб'ядноўваных паветаў. Невядомая яму тады была прапанова падляшскага маршалка, у адпаведнасці з якой мела б быць створана акруга з Бельскага, Гайнаўскага, Сямятыцкага, Высока-Мазавецкага і Замбраўскага паветаў:

— Праблемы меншасцей вельмі часта тычацца самаўрадавага ўзроўню. Так як у выпадку падзелу выбарчых акруг сеймікамі, нашая роля заключаецца толькі ў падтрымцы меншасці. Пакуль што няма прычын, каб сеймік гэтага запісу не ўзяў пад увагу. Мае на гэта час больш-менш да лета.

Варта тут дадаць, што МаіЛ не мае юрыдычнай сілы ў справе падзелу на выбарчыя акругі. Гэта суверэннае рашэнне сейміка, якое можа абскардзіць ваявода або група грамадзян. Канчатковае рашэнне прымае выбарчы камісар.

У ходзе дыскусіі Тамаш Суліма — старшыня Асацыяцыі беларускіх журналістаў, сакратар рэдакцыі «Часопіса», звязаны з Музеем малой айчыны ў Студзіводах, звярнуўся з заклікам да Інстытута нацыянальнай памяці праявіць разважнасць пры нагодзе арганізацыі ў нашым рэгіёне святкаванняў Нацыянальнага дня памяці выклятых жаўнераў, асабліва ў Гайнаўцы (2 сакавіка), дзе гістарычная памяць ёсць розная і ў ходзе святкаванняў могуць быць падагрэты польска-беларускія антаганізмы. Ваявода Жыўна паабяцаў, што зверне на гэта ўвагу дырэкцыі беластоцкага ІНП.

У другой частцы сустрэчы Веслаў Бытыс з Апеляцыйнай пракуратуры ў Беластоку і ваяводскі камендант паліцыі генерал Славамір Межва прадставілі інфармацыю на тэму пераследу злачынстваў на расісцкай і ксенафобнай глебе ў рэгіёне. Кіраўнік падляшскай паліцыі пералічыў змены, якія адбыліся ў ягонай установе. Сярод іх прыгадаў аб стварэнні спецыяльных аператыўна-следчай і інтэрвенцыйнай груп, якія займаюцца гэтымі з'явамі, стварэнне ў паліцыі рэферата па злачынствах псеўдабалельшчыкаў, абымаючага дзеяннямі злачынствы на глебе нянавісці. Прывёў мінулагоднія статыстычныя даныя па гэтым пытанні. У абшары падвышанай рызыкі, напрыклад, пракантраляваных было амаль 8,5 тысячы чалавек, галоўным чынам моладзі, аштрафавана 910 чалавек, зроблена 79 заяў на пакаранне. У рамках супрацьдзеяння і змагання са з'явамі расізму і ксенафобіі на Падляшшы паліцыя пачала супрацоўнічаць з няўрадавымі арганізацыямі (узнікла, напрыклад, Паліцыйная платформа супраць нянавісці) і адміністратарамі будынкаў (галоўным чынам ідзе пра замалёўванне расісцкіх і ксенафобных надпісаў, і т.д.). Усе падляшскія паліцыянты ўдзельнічалі ў адпаведных антыдыскрымінацыйных абучэннях. Камендант Межва падсумоўваў:

— Статыстыкі не люблю. Гэта вулічны ліхтар: можна аб яго абаперціся, але дадому не давядзе.У сферы наяўнасці з'яў на расісцкай і ксенафобнай глебе заўважаецца паляпшэнне ў нашым рэгіёне. І гэта пастаянны напрамак. Адбылася станоўчая з'ява: грамадскае зацікаўленне змаганнем з гэтай праблемай, асуджэнне гэтай з'явы і падтрымка нашых дзеянняў. Усе чужынцы і жыхары Падляшша могуць адчуваць сябе бяспечна.

Пракурор Бытыс у сваю чаргу праінфармаваў, што ў мінулым годзе пракуратуры ў Падляшскім ваяводстве зарэгістравалі 151 справу, звязаную са злачынствамі на расісцкай і ксенафобнай глебе. Ва ўсёй краіне ў першым паўгоддзі 2013 года ўзбуджана было 255 такіх спраў. На Падляшшы былі прызначаны пракуратуры і пракуроры, якія спецыялізуюцца ў гэтых пытаннях.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

# Чаромхаўскі аповед

Па ўстанаўленні дзяржаўнай мяжы паміж Польшчай і СССР станцыя Чаромха лічылася стратэгічным цэнтрам у транзітным руху ГДР — СССР. Да 1956 года цягнікі з Франкфурта ў Чаромху вадзілі нямецкія машыністы, затым з Чаромхі ў Высока-Літоўск забіралі савецкія. У вагонах перавозіліся гандлёвыя тавары, як і вайсковы груз. Калі да гандлёвага цягніка дачаплялі вайсковы груз, дык знаходзіўся ён пад ахovай. Канвой змяшчаўся ў адмысловай вяртушцы. Была яна зялёнага колеру з надпісам ДР, з прыспасобленымі для спання павярховымі ложкамі. Канвой складалі чатыры-пяць салдат і начальнік у чыне прапаршчыка. Груз на адкрытых вагонах знаходзіўся пад брызентавымі палаткамі. Вартаўнікі змяняліся пазменна, кожныя восем гадзін. Наглядалі за грузам па двух з аднаго боку вагона. У летнім сезоне праз Чаромху праязджалі дзесяткі эшалонаў з салдатамі, якія падаваліся з ГДР у Саюз на ўборку ўраджаю. Праязджалі таксама санітарныя цягнікі пад асаблівай аховай. У складзе было дванаццаць — трынаццаць пасажырскіх вагонаў з закратаванымі вокнамі. Гаварылі, што перавозілі ў іх ашалелых салдат з афганскай вайны на лячэнне ў СССР.

Праезд вайсковых цягнікоў складаў для чарамшан пагрозу непрадбачаных выпадкаў. А такія, на жаль, траппяліся. У 1947 годзе афіцэр застрэліў на пуцях жыхара Чаромхі, які гандляваў гарэлкай. Замест „самагону" напоўніў ён бутэльку вадою. Салдаты ў час агледзеліся. Злавілі хітруна ды такога лупня яму далі, што ледзь не сканаў, а на канец застрэлілі. Іншаму салдаты паламалі ногі. У тым жа годзе выпадкова застрэлілі жонку Аляксея Давідзюка, якая займалася рукадзельнай работай побач сваёй кватэры. У канцы пяцідзесятых гадоў ашалелы салдат застрэліў у Плятэраве кандуктара таварнага цягніка. Каб забяспечыцца перад падобнымі выпадкамі, была арганізавана ў Польшчы савецкая камендатура ваенных сувязей ЗКУ (Заведующий комендантурой участка). Камандаванне змяшчалася ў Варшаве пры Цэнтральнай дырэкцыі ПКП, затым меншыя прадстаўніцтвы — у раённых чыгуначных аддзяленнях. Афіцэры ЗКУ пражывалі ў Польшчы разам з сем'ямі. Дзеткі школьнага ўзросту вучыліся ў „рускай" школе, якая змяшчалася ў Варшаве. Аддзяленне ЗКУ на станцыі ў Чаромсе было арганізавана, як прыпамінаю, у пачатках сямідзесятых гадоў. Афіцэры тады кватараваліся ў Гайнаўцы і даязджалі на працу ў Чаромху. Іхняя кантора змяшчалася ў адміністрацыйным бараку рухова-гандлёвай службы на станцыі. Начальнікам быў Генадзь Казарэз, афіцэр у чыне капітана. Апрача камандзіра працавала яшчэ трох афіцэраў: двух лейтэнантаў і старшы лейтэнант. Карысталіся яны службовым „газікам". Шафёр быў на „гражданскім" кантракце. Мае кантакты з чаромхаўскімі ЗКУ-шнікамі бяруць пачатак з 1974 года, калі мяне на працу перавялі з Семяноўкі ў Чаромху. Але гэта асобная гісторыя.

*(працяг будзе)*

**Уладзімір СІДАРУК**

ЗАПРАШАЕМ

Цыкл размоў: Людзі і медыі

Сустрэча з

**Маргарытай ПРАКАПЮК**

журналісткай Радыё і Тэлебачання

ў Варшаве

**САРДЭЧНА ЗАПРАШАЕМ!**

Цэнтр прамоцыі рэгіёна „Чарлёнка"
Гайнаўка, вул. Т. Саланевіч, 2
14.03.2014 г. (пятніца) гадз. 17.00

ЗАПРАШАЕМ

# 09.03 — 15.03

**(22.03. — 20.04.)** Часовыя праблемы з малодшымі развяжа інтуіцыя і назіранне за іх паводзінамі. Добрыя лады з сябрамі. Хаця інтуітыўна будзеш збоку ад іншых. Патрабуеш адпачынку, рэгенерацыі. Больш абдумана будзеш купляць, адкідваць лішнія выдаткі.

**(21.04. — 21.05.)** Хаця будзеш мець ахвоту на вялікі зрыў, у палове амбітнага мерапрыемства можа табе не хапіць сілы. Хаця сядзенне на месцы не будзе табе служыць, не варта спартыўна абцяжарваць сабе пазваночніка і суставаў. Калі хочаш падбаць аб лінію, ад спорту з моцнай фізічнай нагрузкай будзе лепшы шпацыр ці язда на ровары.

**(22.05. — 22.06.)** Справы, якіх ты не заўважаў або не мяшалі табе, выйдуць на дзённае святло (9-13.03.) Могуць яны спрычыніцца да крызісу паміж табой і блізкай асобай. Варта яго перажыць. Як ён закончыцца, пакажа, ці варта інвеставаць ці лепш адысці. У рашэнні паможа табе адважны Марс. А сінглы няхай цешацца дабром быцця ў адзіночку. А асоба, з якой пазнаёмішся ў другой дэкадзе, акажацца прыяцелем на ўсё жыццё. 9-13.03. будзь цярплівым, не ўсё пойдзе прыпяваючы, магчымыя праблемы з грашыма.

**(23.06. — 23.07.)** Дасканалы настрой. Можаш падбаць аб камфорт і функцыянальнасць жылля. Пара памяняць мэблю ці падрыхтавацца да рамонту. Але не бяры пазык на пакупкі для дома. Гаспадаруй тым, што маеш, і хопіць на ўсё. Уцягнеш партнёра ў свае справы, а ён кіне ўсё, каб пастаянна быць пры табе.

**(24.07. — 23.08.)** Будзеш творчы і рамантычны. Праз размовы з партнёрам моцна наблізіцеся да сябе. Хаця 9-13.03. магчымы часовы крызіс (адмоўцеся ад «ціхіх дзён»). Добра дагаворышся з братамі і сёстрамі. Пастараешся добра выглядаць. Падумай аб ранішняй фіззарадцы — пачатая цяпер прынясе найбольш трывалыя эфекты. 11-15.03. твае рашэнні будуць трапныя. Хаця 9-13.03. можа не абысціся без карэктуры ў планах.

**(24.08. — 23.09.)** 12-16.03. усё табе ўдасца. Будзеш трымаць руку на пульсе і не пераборшчыш з выдаткамі. Заззяеш рашучасцю і творчымі прыёмамі, будзеш добра сарганізаваны. Але 9-14.03. не ўсё пойдзе згодна з планам. Менш тады думай, а больш дзейнічай. Паспрачаешся з шэфам ці бацькамі. Горш з целам; пільнуйся ад прастуды, не насі цяжкага. І не шалей з пакупкамі, бо 9-13.03. можаш моцна пашкадаваць. У рабоце супрацоўнічай; поспехі цяпер будзеш мець не сола.

**(24.09. — 23.10.)** Не трап у сіло прагнай і ўсёахопнай любові, дай рады эмоцыям. У сям'і і сярод сяброў будзь уважлівым. Зваліцца на цябе шмат спраў. Мусіш выбраць чым зоймешся найперш. Цяпер можаш пахваліцца сваёй трываласцю і жыццярадаснасцю. На працы і ў фінансах не ўпірайся лішне на сваім, шэфу можа не спадабацца твая нахабнасць.

**(24.10. — 22.11.)** Форма някепская, але могуць азвацца старыя захворванні, ды не замоцна. Толькі можа апанаваць цябе ахвота да бескантрольнага выдавання грошай, а гэта можа ўскладніць тваю фінансавую сітуацыю і прынесці нямала праблем. Але можаш зрабіць вялікае ўражанне на шэфе, які адорыць цябе прытым вялікім даверам.

**(23.11. — 22.12.)** Будзеш дамінаваць, толькі не напалохай гэтым другую асобу. Асабліва зацяты будзеш 9-13.03., расправішся з усімі; старайся не злоўжываць сваёй перавагай, асабліва ў адносінах да дзяцей, якія патрабуюць больш зразумення чым загадаў. Форма добрая, а калі прытрапіцца якое захворванне, дык кароткатрывалае.

**(23.12. — 20.01.)** Важкія змены, прытым наступаючыя лавінна. Не бойся. Не стрымлівай іх, бо супраціў толькі ўскладніць сітуацыю. Можаш падумаць аб перасяленні, нават за мяжу, змяніць кола знаёмых, наладзіш некалькі цікавых знаёмстваў. Новапазнаныя людзі прынясуць табе канкрэтныя карысці (хутчэй мужчыны чым жанчыны). 9-13.03. лёс можа паставіць цябе перад нялёгкім выклікам; не панікуй і не рабі нічога неабдумана.

**(21.01. — 19.02.)** Выжывешся на хатнім полі і пакажаш, хто тут кіраўнік. На працы будзеш убачаны і дацэнены. Але лёгка можаш пераборшчыць, у выніку чаго можаш страціць або насмяшыць іншых. 9-13.03. лёс можа расстроіць табе планы; пільнуй сваіх інтарэсаў і не нервуйся.

**(20.02. — 21.03.)** 12-16.03. будзеш вельмі прыцягальны і сімпатычны, добрая цяга ў фінансах і час на афармленне цяжкіх спраў. Добра ў пары, будзеш маэстра ў мілым задзіўлянні партнёра. Больш руху. Пабольванне (асабліва галавы) міне хутка. На працы зайздросныя поспехі і поўны рахунак. А яшчэ лепш будзе праз тыдзень.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

1. колькасць градусаў Цэльсія, пры якой закіпае вада, 2. няпраўда, 3. гарбата, 4. крайні пункт сушы ў моры, 5. месца для духоўнага прапаведніка, 6. трохвугольнае поле франтона з упрыгожаннямі, 7. адчуванне фізічнай або маральнай пакуты, 8. густая крупяная каша з салам, 9. нячысцік, 10. гарыць на злодзеі, 11. камп'ютарная жывінка, 12. яшчэ не пер'е.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — баскійская пагаворка.

(ш)

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | 1 |
| 2 | 3 | | 4 | | | |
| | | | | | 5 | |
| | | | 6 | | | |
| | 7 | | | | | |
| 8 | | | 9 | | 10 | 11 |
| 12 | | | | | | |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 6 нумара**

Філе, царыца, Ульм, Корча, шпіён, Боцькі, мільён, дым, ніз, груд, сем, Броўка, Быхаў, яблыня.

Рашэнне: **Лепш быць адзінокім, чым мець дурных сяброў**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Яну Міхалюку** з Чыжоў і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00]. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2014 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.



# Восьмага сакавіка або Міжнародны жаночы дзень

Калі Лявон Кулік прачнуўся з цяжкой, пасля ўчарашняй выматваючай гонкі пад назвай „літарбол”, галавой і паглядзеў у ранішняе акно, то са здзіўленнем заўважыў, што з вонкавага боку акна на яго ўзіраўся, хоць і той жа самы што і заўсёды, пейзаж. Аднак ён быў нязвыкла, нясціпла і нават непрыстойна ўсыпаны кветкамі розных гатункаў і колераў. І тыя кветкі кудысьці валаклі пераважна прадстаўнікі мужчынскага полу з надзвычай урачыстымі тварамі.

Здзівіла Куліка не тое, што мужчыны кветкі менавіта валаклі, а тое, што перамяшчалі іх у прасторы яксьці па-іншаму. Тое, як мужчыны дастаўляюць гэтыя цуды прыроды да канчатковага месца прызначэння, рэдка можна ахарактарызаваць другімі эпітэтамі. Лявона насцярожыў, і спачатку нават напалохаў, нязвыклы выраз урачыстасці на расчырванелых фізіяноміях мужыкоў з кветкамі.

Версія, што Кулік памёр і бачыць сваё ўласныя паховіны з таго свету, прыйшла першай, але адпала вельмі хутка. Па-першае, ён не мог памерці ад „літарбола”, бо быў прызвычаены да гэтай гульні з ранняга юнацтва і ў дадатак яшчэ добра закусваў. Іх мясцовая версія гэтай вясёлай народнай забавы, якую Лявон з суседзямі ладзілі пасля кожнага авансу, прадугледжвала спаборніцтва не толькі ў выпіванні гарэлкі, але і ў паглынанні закускі. Па-другое, ажно на такую колькасць кветак на свае паховіны сціплы па натуры Кулік ніколі не разлічваў. Тым больш ад мужыкоў, таму што Куліку ў жыцці падабаліся дзве рэчы: гарэлка і жанчыны. Гарэлка, хай на яго не крыўдуюць прадстаўніцы прыгожага полу, падабалася крыху больш. А значыць, на думку Лявона, мусіла адказваць яму ўзаемнасцю і ні ў якім разе не нарабіць шкоды. Таму версія імгненнай смерці ад „літарбола” не вытрымала лагічнага разважання нават непрацвеверазеўшых да канца ягоных мазгоў.

Другая версія, якая наведала яго галаву, была яшчэ больш недарэчнай, чым першая. Усяго толькі на сотую долю імгнення Лявон засумняваўся, што можа да іх завітаў кіраўнік краіны, і сам рассмяяўся з гэтай бязглуздзіцы. Беларусы то і раней не любілі сваіх кіраўнікоў, ну а гэтаму добраахвотна кветак ніхто не пацягнуў бы дакладна. Пад прымусам то так. Але тады гэта былі б збольшага безабаронныя жанчыны, на плечы якіх звычайна айчыннае начальства ўскладвае найбольш непрыемныя абавязкі. А тут з кветкамі адны мужыкі.

Заставалася трэцяя версія, самая кепская і жудасная, пра якую яго інтэлект падазраваў ад пачатку, але не хацеў прыняць і паверыць, шукаючы паратунку ў варыянтах з меншай канцэнтрацыяй сусветнага зла. Менавіта гэтай версіі ён баяўся. Таму так інтэнсіўна, з хуткасцю, якая перавышала хуткасць самага прафесійнага камп'ютара, падбіраў другія варыянты. Але ж не. Кепскія навіны прыходзяць заўсёды тады, калі ты найбольш безабаронны. А разбіты, з поўнай галавой болю і абсалютна пустымі кішэнямі Кулік сапраўды быў зараз так безабаронны, як тыя няшчасныя жанчыны...

Сумневаў больш не заставалася. Сёння восьмага сакавіка. Гэта значыць, што жанчыны святкуюць Міжнародны жаночы дзень, а мужыкі валакуць ім кветкі. На карысць гэтай версіі ўсё супадала з дакладнасцю касмічнага гадзінніка. Кветкі валакуць мужыкі, твары ўрачыстыя, як на паховінах, бо свята жаночае. А расчырванелыя фізіяноміі ад таго, што сёння кожнаму з іх дазволяць легальна і не хаваючыся ад мілых дам выпіць за іх жа прыгажосць і здароўе.

— Лепш бы спрацавала першая версія, і я зараз узіраўся б на свае паховіны з таго свету, ды з задавальненнем пасмейваўся б з гэтых, яшчэ жывых прыдуркаў, якія мусяць цэлы дзень дарыць сваім бабам кветкі і старацца ўсяляк ім дагадзіць, — ледзьве чутна прастагнаў Лявон і задумаўся што рабіць далей.

І так заставалася спакойна і без непатрэбнай панікі праанналізаваць сітуацыю. Жонка ў яго ёсць. Гэта факт, ад якога можа пазбавіць толькі аддзел разводаў. І то не так хутка як хацелася. Кветкі прадаюць на кожным кроку. Але вось тыя паперкі Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь, за якія кветкі можна купіць, скончыліся яшчэ ўчора. А паперак нацыянальных банкаў іншых краін у яго і раней за заводзілася. Кішэні былі пустыя як учарашнія бутэлькі.

— Ну не забіваць жа жонку з-за таго, што я не магу купіць ёй кветак, — зноў загаварыў ён сам з сабой. — Ні адзін прадстаўнік моцнай паловы чалавецтва, у якога засталіся яшчэ мужчынскія гонар і годнасць, ніколі не дазволіць сабе забіць жанчыну ў яе жаночае свята. Нават калі гэта яго жонка.

Паколькі версія з радыкальным пазбаўленнем ад жонкі была непрымальнай, Кулік стаў меркаваць, як ад жонкі пазбавіцца не так катэгарычна. Можна, прыкладам, сказаць, каб паехала на дзень-другі да сваёй старэнькай маці на вёску. Трэба ж і пра старых падумаць у такое свята. Але тады жонка можа запатрабаваць букет яшчэ і для маці. Можна дазволіць пайсці ў кафэ з сяброўкамі. Але тады папросіць грошы на кафэ.

— У гэтых жанчын заўсёды ёсць контраргументы на кожнае наша слова, — ужо больш моцным, крыху акрэплым голасам прабубніў ён.

Развесціся з жонкай не выпадала, бо на свята аддзелы па разводах не працуюць. Здаць пустыя бутэлькі, якіх было столькі, што ўсе фінансавыя праблемы сённяшняга дня вырашыліся б лёгка, таксама не выпадала па той жа прычыне. У свята і кропкі прыёму шклатары таксама не працуюць. Хоць ты трэсні! Вось табе і Міжнародны жаночы дзень! Не свята, а Армагедон нейкі.

Была яшчэ надзея адкупіцца добрымі вершамі. Лявон сярод безлічы сваіх прафесій, хобі і заняткаў, як натура разнастайная і неўтаймаваная, быў яшчэ і паэтам. І некалі раней, у маладосці, на беразе старадаўняга Нёмана, у цёплую ноч асветленую поўняй, яна, яго Аксана, яшчэ не маючы статуса жонкі, узахлёб расхвальвала яго творчасць. І кожны новы верш слухала з большымі вачамі, чым тая нябесная поўня. Але з тае пары шмат вады выцекла. І не толькі з Нёмана. А колькі гарэлкі... Не вымераць і адразу не вызначыць чаго болей. А вочы Аксаны, цяпер ужо законнай жонкі, ад новых вершаў больш не расшыраліся. Наадварот, звужаліся да ўзроўню танкавай амбразуры, і заўсёды суправаджаліся крыкам прыкладна такога зместу: „Што алкаш, зноў грошы будзеш кленчыць?!” Ды і напісаць новы верш, з будуна, не пахмяліўшыся, не прадстаўлялася мажлівым. П'яным атрымлівалася. Ды яшчэ як. Цвярозым таксама пісалася нешта. Крыху горш, але пісалася. А вось паміж гэтымі двума станамі ніколі нічога не атрымлівалася.

Але з кожнай хвілінай галава Куліка ўсё цверазела і святлела, і ідэі ў яе сталі прыходзіць усё больш цвярозыя і светлыя. Ад былых думак Лявон і сам здрыгануўся, як успомніў іх. Нават перажагнаўся.

І вось раптам яго інтэлект наведала ідэя, якую гаспадар гэтага інтэлекту адразу назваў геніяльнай.

— Геніяльна!!! — Выбухнуў ён і рашуча махнуў сціснутым кулаком, аж паветра свіснула.

Геніяльнасць ідэі палягала на тым, што грошы на падарунак жонцы трэба было папрасіць у самой жа жонкі. Без вершаў, а проста сказаць праўду. Так маўляў і так, з дуру грошы распазычыў, распусціў, аблічыўся, а без падарунка не магу табе паказацца на вочы. Няўжо яна сама сабе пашкадуе на падарунак. Ну не дурная ж яна. Жанчыны без падарункаў жыць не могуць, як бізнес без рэкламы. І рэалізаваць гэтую ідэю было не так і цяжка, бо ў словах Куліка было насамрэч больш праўды чым падману.

— Ясна, што грошай у цябе няма, — агрызнулася на прапанову спонсарства самой сябе ў сваё ж свята жонка Лявона. — Дзіўна, што ў цябе яшчэ порткі засталіся. А мог бы і іх прапіць, алкаголік.

— Сапраўдны мужчына ніколі не прап'е таленту, гонару і портак, — парыраваў Лявон.

Ён добра ведаў, што зараз будзе крык, лямант, папрокі... Але мусіў праз гэта прайсці, як праз роў, які ад яго не залежаць, і на якія паўплываць немажліва. Затое ў канцы жудаснага маналогу каханая Аксана шпурлянула прама яму ў морду невялічкую кучку грошай, якіх чыста тэарэтычна мусіла хапіць на букет кветак, бутэльку шампанскага, каробку цукерак і яшчэ што-небудзь неспадзяванае.

— Да жанчын трэба мець адпаведны паэтычны падыход у кожнай сітуацыі, — праз паўгадзіны тлумачыў Кулік свайму сябру і ўчарашняму сабутэльніку Зміцеру Макарэвічу, які зранку пакутаваў ад галаўнога болю, адсутнасці грошай і перспектыў набыць сваёй жонцы кветкі.

— Добра, — кіўнуў ён галавой і ў яго спакутаваных вачах засвяцілася надзея. — Паспрабую зрабіць як і ты.

І ўжо праз гадзіну два шчаслівыя мужчыны, якія мала чым нагадвалі ранішніх спакутаваных істот, весела крочылі ў кірунку кветачных шапікаў. Цюльпаны. Канешне цюльпаны. Традыцыйна на гэтае свята, і танна. Шампанскае, як абавязковы атрыбут рамантычнага святочнага вечара з жонкамі, таксама было набытае. А замест цукерак і якойсьці неспадзяванкі мужыкі вырашылі ўсё ж узяць па бутэльцы гарэлкі. Ну, не вяртацца ж дахаты хворымі ад будуна. Лепш жа прыгожымі, вясёлымі, пахмеленымі і закаханымі... Ну і кветкі ў наяўнасці.

— Давай, Лявон, вып'ем за нашых мілых жонак, — прапанаваў Зміцер на лаўцы ў гарадзенскім парку імя Жылібера. — Усё-такі добрыя яны ў нас. Гэта мы крыху не так нешта робім. Гады мы. Свінні...

Стадыя самабічавання пасля ўчарашняй п'янкі ў яго заўсёды прыходзіла прыкладна ў адзін і той жа час. У тры гадзіны трыццаць сем з паловай хвілін пасля поўдня. І заканчвалася пасля трэцяга кілішка. Таму Лявон, каб не слухаць таго ныцця, якое чуў ужо безліч разоў, два наступныя тосты „За жанчын” і „За каханне” пастараўся агучыць як мага хутчэй. Далей ініцыятыву перахапіў Макарэвіч. І яго інтэнсіўнасць агучвання тостаў была не меншай.

— Можа шампанскае адчынім, — прапанаваў ён, калі гарэлка скончылася.

— Давай, — адгукнуўся суразмоўца.

А як скончылася і шампанскае, Кулік звярнуўся з прапановай.

— Давай крыху прыляжам, ды падрэмлем. Хоць ужо і цемнавата, але жаночы дзень яшчэ не скончыўся. Паказацца каханай на вочы ў такі дзень п'яному неэтычна для маёй тонкай паэтычнай натуры. Таму гадзінку падрэмлем, і айда з кветкамі да жонак.

Макарэвіча доўга ўгаворваць не прыйшлося. Ён ужо салодка спаў, палохаючы варон і мінакоў сваім устойлівым і крыху арытмічным храпам.

Прачнуліся мужчыны аднучасова. Быў дакладна такі ж змрок, як і перад сном. Здавалася, прайшло ўсяго хвілінка. Мужчыны падняліся і пасунуліся да прыпынку грамадскага транспарту. Лявона насцярожвала толькі адно, што людзі, якія там стаялі, былі без кветак. „Хіба ўжо падарылі. А мы яшчэ толькі ідзём дахаты. Трэба спяшацца”, — падумаў ён.

— Трэба спяшацца, — нібыта злапаўшы яго думку прастагнаў Макарэвіч. — А ў выходны транспарт ходзіць рэдка.

— Якія выходныя? — звярнуўся да іх нейкі мужчына з прыпынку, які хіба таксама кепска арыентаваўся ў прасторы і часе. — Што, зноў выходны?!

— Вось жа алкашня, — смеючыся адгукнуўся Лявон, аглядаючы ці ў парадку яго букет цюльпанаў. — Піць трэба менш. Сёння свята, восьмага сакавіка, Міжнародны жаночы дзень! Хоць і вечар.

І тут, нейкая жанчына сталага веку, ціха падышла да яго і ледзьве не на вуха заявіла.

— Мужчына, сёння ўжо дзевятага сакавіка, а не восьмага. Раніца. Будні дзень. Восьмага скончылася яшчэ ўчора. А наконт таго, што піць трэба менш, я з вамі абсалютна згодная.

**Віктар САЗОНАЎ**

ISSN 0546-1960